

**Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

# ЛіМ

**Літаратура і мастацтва**

ISSN 0024-4686

№ 1 (4699) 4 студзеня 2013 г.


**Уладзімір МАЗГО**

## Каляда

*Звоняць бомы, едуць сані*
*Па святочнай белізне.*
*Мы не знаем нават самі:*
*Ці наяве, ці у сне?..*

*Глуха вые завіруха,*
*Замятаючы сляды.*
*Саграваe маладуху*
*Пацалункам малады.*

*— Каляда, каляда! —*
*Весяліцца грамада,*
*Падарыначкі нясе*
*Калядоўшчыцы-казе.*

*Каляда, каляда!*
*Нават холад — не бяда.*
*Заспяваюць палазы —*
*Уцякаюць маразы.*

*Хай ляцяць, як птушкі, коні*
*За бялюткі далягляд*
*І паўсюль світаюць гоні,*
*Асвятляючы пагляд.*

*І няхай зіма лютуе*
*Завірухай да нябёс —*
*Каляда накалядуе*
*Нам усім шчаслівы лёс.*

*— Каляда, каляда! —*
*Весяліцца грамада,*
*Падарыначкі нясе*
*Калядоўшчыцы-казе.*

*Каляда, каляда!*
*Нават холад — не бяда.*
*Заспяваюць палазы —*
*Уцякаюць маразы.*

Фота Кастуся Дробава

# Навагодні зварот Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь да беларускага народа

Дарагія сябры!

Мы такія розныя, але імгненні адыходзячага года робяць нас падобнымі, таму што мы аб'яднаны пачуццём урачыстасці і велічы гэтага моманту.

Літаральна праз некалькі хвілін нам давядзецца адправіць у архіў гісторыі высакосны 2012 год.

Помніце, роўна год таму мы сустракалі яго насцярожана і з апасеннямі. Але яны аказаліся дарэмнымі. Мы яго пражылі спакойна, упэўнена ідучы ўласным шляхам. Жылі сваім розумам, працай здабываючы «хлеб надзённы». Мы нікога не пераймалі, не капіравалі бяздумна чужыя мадэлі. Не крыўдзілі іншых і не стваралі праблем для нашых суседзяў.

Мы нямала перажылі, праз многае прайшлі. Але заўсёды — разам! Пацвярджаючы непарыўныя духоўныя сувязі і з'яднанасць адзінай сям'і — беларускай нацыі.

У адыходзячым годзе мы нямала зрабілі для развіцця нашай краіны. Сабралі небывалы ўраджай збожжа. Сталі касмічнай дзяржавай і замахнуліся на будаўніцтва ўласнай атамнай электрастанцыі.

Узнялі на новы ўзровень ахову здароўя, адукацыю. Адраджалі сусветна вядомыя помнікі культурнай спадчыны.

Нашы студэнты, школьнікі, артысты і нават спартсмены праславілі Беларусь сваімі перамогамі на сусветнай арэне.

Але галоўным было тое, што Беларусь стала на 115 тысяч маленькіх грамадзян багацейшая. Гэта прыкладна на 6,5 тысяч больш, чым у мінулым годзе.

Кажу прыкладна, таму што, можа, у гэтыя імгненні адыходзячага года хтосьці стаў шчаслівейшы за нас, пачуўшы чароўны голас малюткі.

Я схіляюся перад вамі, што падарылі краіне будучыню — дзяцей. Яны — аснова нашай незалежнасці, дабрабыту і працвітання. І грамадства павінна зрабіць усё неабходнае для таго, каб захаваць гэты вялікі здабытак, зберагчы кожнае дзіця ад нягод і няшчасцяў.

У Год беражлівасці мы абавязаны навучыцца берагчы адзін аднаго. Не праходзіць міма чужой бяды, быць дабрэйшымі і больш уважлівымі да людзей, якія жывуць побач.

Наступны год стане пераломным для эканомікі. У нас няма іншага выбару: паколькі якаснае абнаўленне і паскораная мадэрнізацыя прадпрыемстваў — залог умацавання нашай дзяржаўнасці і росту дабрабыту народа.

У 2013 годзе Беларусь узначаліць Садружнасць Незалежных дзяржаў. Старшынства нашай краіны пройдзе пад знакам захавання Прыроды. Гэта Божы дар, і мы павінны навучыцца яго рацыянальна выкарыстоўваць і захаваць для будучых пакаленняў.

Зрабіць так, каб падораная лёсам родная зямля была любімым і ўтульным домам для кожнага яе жыхара.

Дарагія сябры!

Летапіс Айчыны ўяўляе сабой сплаў імён і лёсаў мільёнаў асоб.

Прайшоўшы шмат няпростых гістарычных дарог, мы заслужылі свае права быць шчаслівымі.

Мы глядзім у будучыню з упэўненасцю. Мы ведаем, куды ісці і што рабіць. Мы верым у сябе і ў невычэрпныя сілы народа.

Мы вельмі багатыя. У нас ёсць мільёны ўмелых рук, таленавітых, разумных і мудрых людзей.

І мой навагодні тост — за нас, за беларускі народ!

За дзетак — тых, хто ўжо нарадзіўся або ў хуткім часе з'явіцца на свет. І за іх бацькоў!

За старых, чый жыццёвы вопыт служыць нам прыкладам і апорай!

За нашых жанчын — ласкавых і клапатлівых, любімых і любячых!

За людзей у пагонах, якія забяспечваюць мір і бяспеку на роднай зямлі!

За нашу беларускую інтэлігенцыю, якая стварае духоўныя багацці народа!

За рабочых і сялян, кіраўнікоў і спецыялістаў, якія прымнажаюць здабытак краіны!

Няхай застануцца ў адыходзячым годзе ўсе крыўды і смутак, а новы год падорыць вам шчасце і радасныя перамены ў лёсе!

Здароўя, міру і дабра вам! З Новым годам!

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА**

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага мастака Беларусі Віктара Грамыку з 90-гадовым юбілеем. «Як адзін з прызнаных лідараў нацыянальнай жывапіснай школы Вы зрабілі вялікі ўнёсак у выхаванне некалькіх пакаленняў мастакоў. Няхай і ў далейшым Ваша шматгранная дзейнасць і актыўная грамадзянская пазіцыя служаць добрым прыкладам таленавітай моладзі», — сказана ў віншаванні.

✔ Беларусь і Казахстан маюць намер аднавіць абмен Днямі культуры, якія не праводзіліся цягам некалькіх гадоў.

✔ Сістэму фінансавага менеджменту плануецца пабудаваць у сферы беларускай культуры, пра што распавёў міністр культуры краіны Барыс Святлоў.

✔ Калядны канцэрт класічнай музыкі пры ўдзеле беларускіх музыкантаў адбыўся ў Нідэрландах, у царкве Палейскерк (Гаага). Канцэрт давалі выпускнікі Беларускай акадэміі музыкі Сяргей Смірноў і Дзмітрый Цыпкін, а таксама выканаўца з Нідэрландаў Райне Хофман.

✔ Будынак Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы перадалі калектыву. У будынку тэатра ўжо завершаны будаўнічыя работы, засталося наладзіць абсталяванне сцэны і завезці неабходную мэблю і прадметы інтэр'ера. Рэпетыцыі пачнуцца пасля навагодніх свят.

✔ У Мірскім замку з 4 па 6 студзеня ўпершыню пройдуць стылізаваныя калядныя балі. Гэта будуць венскі баль, свецкі рэтрасалон і баль для маленькіх дам і кавалераў.

✔ Беларуская кухня была прадстаўлена на пераднавагодняй вечарыне ў Пекіне. Мерапрыемства было арганізавана Расійскім культурным цэнтрам, які працуе ў сталіцы Кітая, а сакрэтамі кулінарнага майстэрства дзяліліся прадстаўнікі пасольстваў Беларусі, Расіі і Казахстана.

✔ Тэлеканал «Беларусь-ТВ» з 1 студзеня пераўтвораны ў «Беларусь 24». Разам са зменай лагатыпа зменіцца і стыль вяшчання, з'явяцца новыя праекты. Адрас у інтэрнэце: *www.belarus24.by*.

✔ Музей алімпійскай славы адкрыецца ў гэтым годзе ў Магілёве, паведаміў старшыня аблвыканкама Пётр Руднік. Сярод экспанатаў — рарытэтныя медалі, спортінвентар, сувеніры і інш. Размесціцца музей у будынку побач з Нацыянальным алімпійскім камітэтам Беларусі ў Магілёўскай вобласці.

**Падрыхтавала Таццяна МАСТОЎСКАЯ**

*За падзеяй*

# Год кнігі завяршыўся, Кніга — засталася

Пасля капітальнага рамонту адкрылася новая кнігарня «Книги & книжечки» на месцы здаўна вядомага мінчанам магазіна «Падпісныя выданні». Пра тое, што падзея гэта не зусім ардынарная, сведчыць увага, нададзеная ёй высокімі афіцыйнымі асобамі і прэсай. Кнігарню наведалі першы намеснік Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Аляксандр Радзькоў, міністр інфармацыі Алег Праляскоўскі, яго першы намеснік Лілія Ананіч і інш.

**Лея ХАШЫМБА, фота Кастуся Дробава**

Выступаючы перад журналістамі, Алег Праляскоўскі паведаміў, што кнігарня — вынік рэарганізацыі, якая мэтанакіравана ажыццяўляецца ў кніжным гандлі Міністэрствам інфармацыі. Так, створана адзінае акцыянернае аб'яднанне «Белкніга», што стабільна працуе і нават пашыраецца, нягледзячы на няпросты ў эканамічным плане час. Пра тое, што кніга патрэбная беларусам, сведчыць нязменны попыт на яе. «Беларусы — інтэлектуальная нацыя», — адзначыў міністр інфармацыі. Сапраўды: кожны год у нас выдаецца 3,5 — 4 кнігі на душу насельніцтва. Прыкладна такія ж лічбы ў Германіі і Францыі, у Расіі і ва Украіне паказчыкі значна ніжэйшыя. У сілу некаторага кансерватызму беларусы аддаюць перавагу «жывой», друкаванай кнізе, але выдавецтвы працуюць і над электронным фарматам, а з цягам часу гатовыя актывізаваць гэты напрамак. Як кажуць, абы чыталі.

Новы магазін адрозніваецца ад «старога» тым, што ў ім значна больш месца аддадзена замежнай літаратуры, у тым ліку на мовах арыгіналаў. Дарэчы, кнігі замежных аўтараў магазін будзе атрымліваць праз прамыя пастаўкі, а не завозіць з Расіі. Таму кошт будзе ніжэйшы, чым, прыкладам, на кніжных выстаўках-кірмашах. Пачэснае месца адведзена айчынным выданням, у тым ліку дзіцячым. Прыемна было якраз насупраць увахода ўбачыць асобнікі параўнальна нядаўна заснаванай серыі «Жыццё знакамітых людзей Беларусі». Якуб Колас, Янка Купала, Уладзімір Караткевіч, Максім Танк шчыра вітаюць наведвальнікаў.



*Стасункі*

# Піцер — Віцебск

«Меня чарует в небе чёрный тучи клок, и — Саша Пушкин, и отчасти — Саша Блок», — напісаў аднойчы Глеб Гарбоўскі. І так сталася, што імя «генерала ад паэзіі» — Аляксандра Сяргеевіча — блаславіла яго творчы шлях.

**Ларыса РАЛАВЕЦ**

У сценах Пушкінскага дома Глеб Гарбоўскі атрымаў прэмію Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва. Высокая ўзнагарода прысуджана яму за паэтычны цыкл «Беларускі сшытак», паэму «Чмель у аўтобусе» і асобныя творы розных гадоў. «Беларускія» вершы піцерскага паэта (усяго іх каля тысячы) — не турыстычныя замалёўкі, а погляд знутры, позірк чалавека, які ведае і любіць Беларусь. Лёс звязаў Глеба Якаўлевіча з Віцебшчынай, і паэтычны цыкл стаў сімвалічным мастком паміж двума гарадамі — Санкт-Пецярбургам і Віцебскам — і адпаведна паміж дзвюма краінамі.

Кіраўніцтва Саюзнай дзяржавы прадстаўляў Дзяржаўны сакратар Рыгор Рапота, менавіта ён уручыў узнагароду паэту. Выступоўцы — прадстаўнікі самых розных творчых прафесій — усе як адзін казалі пра талент і высокі аўтарытэт Глеба Гарбоўскага, пра тое, што такая значная — і ў сімвалічным, і ў матэрыяльным плане — узнагарода сапраўды ім заслужана.

**P. S.** *Яшчэ колькі цікавых фактаў з жыцця і творчасці Г. Гарбоўскага — у наступным нумары «ЛіМа».*



*Далягляды*

# З новай мовай!

**Ян ЗАГОРСКІ**

«Ваш друг Беларусь», — так называецца новая праграма міжнароднага вяшчання Беларускага радыё, якая пачала выходзіць на кітайскай мове з першага студзеня.

Як паведаміў галоўны дырэктар міжнароднага «Радыё Беларусь» Навум Гальпаровіч, праграма выходзіць штотыдзень і распавядае пра стасункі нашай краіны з Кітайскай Народнай Рэспублікай, сумесныя праекты ў эканоміцы і іншых сферах, кантакты грамадзян абедзвюх краін.

У творчую групу, якая рыхтуе праграмы да эфіру, разам з беларускімі журналістамі ўваходзяць і кітайскія калегі, якія працуюць у нашай краіне.

Такім чынам, з новага года «Радыё Беларусь» вяшчае ў міжнародным эфіры на васьмі мовах — беларускай, рускай, англійскай, нямецкай, польскай, французскай, іспанскай і кітайскай.

*Імпрэзы*

# У чаканні Раства

**Ярына РЫТАМІНСКАЯ**

Дабрачынны канцэрт «Дух Раства» адбыўся ў Ліцэі БДУ. Жаданымі гасцямі свята, арганізаванага ў Белдзяржуніверсітэце, сталі дзеці, якія праходзяць лячэнне ў рэабілітацыйным цэнтры «Ждановічы», выхаванцы дзіцячай вёскі «Вытокі» і Рудзенскай школы-інтэрната. На свята завіталі таксама навучэнцы Чэрвеньскага ліцэя, пацыенты дзённага стацыянара цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва Заводскага раёна сталіцы.

Свае майстэрства паказалі лепшыя творчыя калектывы БДУ: народная харавая капэла, ансамбль танца «Крыжачок», дзіцячы ансамбль танца «Літарынка» ды іншыя. Вялікую цікавасць выклікала майстэрства пескаграфіі, прадстаўленае ў слайд-прэзентацыі, выступілі таксама студэнцкія тэатры. Як паведаміла прэс-служба БДУ, спонсарскую дапамогу акцыі аказалі дабрачынны фонд «Незалежная дапамога дзецям» і ТДА «Анега».

**Ідзе падпіска на І паўгоддзе 2013 г.**

*Для індывідуальных падпісчыкаў:*

**1 месяц — 17 140 руб.**
Падпісны індэкс — 63856

*Ведамасная падпіска:*

**1 месяц — 37 651 руб.**
Падпісны індэкс — 638562

*Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў:*

**1 месяц — 10 890 руб.**
Падпісны індэкс — 63815

*Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі:*

**1 месяц — 27 864 руб.**
Падпісны індэкс — 63880

Літабсягі

# Душэўная энцыклапедыя

Новым прыпынкам акцыі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь «Вялікія калядныя сустрэчы з кнігай» стала крама «Прэзентацыя». Тут шырокай публіцы былі прадстаўлены трэці том энцыклапедыі «Культура Беларусі», што не так даўно пабачыў свет у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі».




Марына ВЕСЯЛУХА

Пад вокладкай гэтага сапраўды ўнікальнага выдання змешчаны артыкулы пра знакамітых беларусаў, вядомыя творы мастацтва, беларускія народныя танцы, строі, назвы якіх пачынаюцца на літары «Г» — «Ж».

«Культура Беларусі» — энцыклапедыя незвычайная, можна нават сказаць, вельмі душэўная. А хіба можна пісаць пра мастацтва і культуру без душы? І працаваць над такім выданнем таксама трэба з душой. Як распавяла рэдактар энцыклапедыі Дар'я Суша, энцыклапедыя раскрывае розныя бакі нашай культуры. З яе старонак даведваешся пра творчы лёс мастакоў, адметнасці іх работ. Апрача прафесійнага, высокага мастацтва пазнаеш мастацтва традыцыйнае, яго багацце, даведваешся і пра тэхнічныя аспекты працы».

Здабыткам новай энцыклапедыі можна лічыць артыкулы пра дызайн, яго гісторыю, разнавіднасці (кніжны, графічны, прамысловы, рэкламны), а таксама сучаснае развіццё. Увайшлі ў выданне і абсалютна новыя матэрыялы пра царкоўныя рэчы, начынне, адзенне святароў. Раней ва ўніверсальных энцыклапедыях тэма рэлігіі не закранаплася. Можна тут прачытаць і артыкулы пра адметнасці нашай культуры. Гэта, да прыкладу, дываны маляваныя, вядомыя ў Беларусі ўжо у канцы XIX стагоддзя. На такіх дыванах — і львы, і космас. Адметнасць кнігі і ў тым, што ў яе ўвайшла вялікая колькасць артыкулаў пра аматарскія калектывы, народныя, узорныя: гэта і фальклорныя гурты, спеўныя, тэатральныя, нават гульнявыя.

Першая сустрэча энцыклапедыі з чытачом таксама прайшла вельмі душэўна. Так, падчас імпрэзы этнахарэограф, даследчык танцавальнай культуры беларусаў Мікола Козенка правёў майстар-клас па народных танцах, яму ў гэтым дапамаглі ўдзельнікі фальклорнага калектыву «Мілавіца» Цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі Кастрычніцкага раёна г. Мінска. А падыгралі танцорам на акардэоне і скрыпцы Аляксей Крукоўскі і Вераніка Анцілеўская.

Арт-лінія

# Кераміка па-бабруйску

Выстаўка керамікі «Бабруйскі варыянт» адчынілася для наведвальнікаў у мастацкай галерэі «Універсітэт культуры». Свае работы прадставілі чацвёра мастакоў-керамістаў з Бабруйска.

Дзіяна КАРОЛЬ, фота аўтара

Асноўнае, што аб'ядноўвае ўдзельнікаў выстаўкі — прадстаўнікоў старэйшага пакалення Валерыя Калтыгіна і Анатоля Концуба і маладзейшых — Алега Ткачова і Максіма Калтыгіна, — прафесійная мастацкая кераміка ці, дакладней, творчае і трапяткое стаўленне да яе. Кераміка ў іх выкананні адметная, у кожнага свой творчы почырк, стыль, твар. Аб'ядноўвае мастакоў і штогадовы міжнародны пленэр па кераміцы «Арт-Жыжаль», што праходзіць у Бабруйску, на якім мастакі працуюць у супольнай творчасці некалькі тыдняў з «жывым» агнём.

Валерый Калтыгін — старшыня Бабруйскага аддзялення Беларускага саюза мастакоў, адзначаны прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за дасягненні ў сферы мастацтва, арганізатар і кіраўнік «Арт-Жыжаля». Анатоль Концуб — заслужаны работнік народнай адукацыі Беларусі, удзельнік міжнародных пленэраў па кераміцы і жывапісе. Максім Калтыгін — стыпендыят спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, стыпендыят Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Алег Ткачоў — выпускнік Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, стыпендыят спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, адзначаны прэміяй ААН за работу «Чалавек і чалавецтва».

Паводле ўдзельніка, ідэйнага натхняльніка і куратара выстаўкі Валерыя Калтыгіна, калі параўнаць тэндэнцыі сённяшняй керамікі з керамікай 1970 — 1980-х гг., добра бачны пераход ад дэкаратыўна-прыкладной скіраванасці да дэкаратыўнага, больш станковага напрамку. На яго думку, такі зварот мастакоў да свабоднага погляду на кераміку абумоўлены адсутнасцю заказаў на манументальныя творы.

— У Беларусі мы маем выдатны напрамак у кераміцы, тут працуюць таленавітыя мастакі, у іх творах прысутнічаюць асацыятыўныя выказванні, шмат гратэску, трансфармацый, якія трэба разумець, а значыць, і размаўляць на адной мове з керамікай, — упэўнены В. Калтыгін. Выказаў ён і сваё меркаванне наконт таго, дзе быць цэнтру керамікі: — Ад таго, што ўжо не адзін год пасяхова праводзіцца міжнародны пленэр «Арт-Жыжаль», цэнтр беларускай керамікі не перамесціцца ў Бабруйск — як ні круці, асноўная маса керамістаў жыве ў Мінску. А вось добрай базы ў сталіцы няма, — пашкадаваў мастак.



*Алег Ткачоў. Каланізацыя. 2010. Шамот. Солі. Палівы.*

Повязі

# ...і букет валошак

На прэмію Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва звычайна вылучаліся творы асобна беларускіх і расійскіх аўтараў. Прэмія 2013 — 2014 гадоў можа стаць цікавым выключэннем: удзельнічаць у конкурсе будзе сумесны праект Паўлавапасадскай хустачнай мануфактуры і віцебскага майстра Ніны Бабровіч. І прапануюць яны «Букет для славянкі».

Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА, фота аўтара

Галоўны мастак Паўлавапасадскай хустачнай мануфактуры, заслужаны мастак Расійскай Федэрацыі Віктар Зубрыцкі — адзін з аўтараў калекцыі:

— Расійская частка праекта мае назву «Кветкі Расіі». Гэта пашыраная калекцыя паўлавапасадскіх шаляў. А беларускі праект — «Вяртанне да вытокаў», дзе Ніна Бабровіч, майстар культурна-гістарычнага комплексу «Залатое кальцо Віцебска "Дзвіна"» зрабілі калекцыю мадэляў вопраткі, якая адносіцца да пскоўска-віцебскага, віцебска-смаленскага памежжа. Яе калекцыя складаецца з трох частак: першая — рэтра, другая мае дачыненне да Малевіча, у пэўнай ступені адсылае да яго спадчыны, светаадчування. Апошняя частка — сучасная, тое, што можна апрануць сёння.

Хусткі паўлавапасадскіх майстроў вабяць не толькі цёплымі малюнкамі, але і прыгожымі, мілагучнымі назвамі: «Журавушка», «Малінаўка»... Ёсць у іх нешта агульнаславянскае: і тыя кветкі, што здаўна ўпрыгожваюць клумбы, і арнаменты, і нават гісторыі іх стварэння. Валерыя Фадзеева, аўтар «Славянкі», згадвае, што раней на вуліцах святочнага Віцебска ў дні Славянскага базару прадаваліся букецікі валошак — як сімвал і свята, і Беларусі. Прыглядзіцеся да хусткі — і сярод кветак расійскіх палёў вы заўважыце нашы родныя валошкі.



*Алена Жукава і Валерыя Фадзеева. Апошнія штрыхі да букета.*

Дарэчы, у конкурсе на прэмію Саюзнай дзяржавы Паўлавапасадская хустачная мануфактура ўдзельнічае не першы раз: у 2011 — 2012 гадах вылучалася калекцыя хустак «Спадчына». Тады калектыў мастакоў атрымаў дыплом намінанта — не хапіла аднаго кроку да звання лаўрэата. Магчыма, наступнай нагодай расказаць пра сусветна вядомую з канца XVIII стагоддзя мануфактуру будзе якраз уручэнне прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва.

Абрысы

➤ Нацыянальны мастацкі музей Беларусі прэзентаваў каляндар на бягучы год, у якім змешчаны шэдэўры айчынных мастакоў. Яго ўпрыгожылі работы класікаў Апалінарыя Гараўскага, Вітольда Бялыніцкага-Бірулі, Станіслава Жукоўскага, Віталя Цвіркі, Леаніда Шчамялёва, Ігара Бархаткова і іншых з калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея. Каляндар выдадзены пры падтрымцы мастацкага музея і Белдзяржстраха.

Алеся БАЦЮСЬ

➤ Учора ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь адкрылася юбілейная выстаўка «Убачыць зямлю ўсю» народнага мастака Беларусі Віктара Грамыкі. На ёй прадстаўлена каля 60 твораў жывапісу канца 1940 — пачатку 2010-х гадоў. Выдатны беларускі мастак, педагог, грамадскі дзеяч, мемуарыст увасобіў у сваіх карцінах захапленне веліччу і прыгажосцю прыроды, кранальнасцю і годнасцю чалавека.

Рыта СТАХ

➤ Гурт «Палац» аднаўляе «Калядныя сустрэчы». «Усе нашы традыцыі прывязаныя да вясковага асяроддзя, а вось як святкаваць Каляды ў вялікім горадзе, ніхто не задумваўся. Мы прапануем свой варыянт», — заяўляе Алег Хаменка, які сёлета аднаўляе ўласны праект. Вялікі канцэрт з гэтай нагоды адбудзецца 7 студзеня ў клубе «Loft». Сам Алег прадставіць разам з музыкамі праграму «Кола грукатала» ў клубным фармаце. Святочную атмасферу падтрымаюць гурты «Dzivasil» і «Guda».

Рына НОВАК

➤ Помнік князю крэўскаму і віцебскаму, вялікаму князю літоўскаму Альгерду Гедымінавічу будзе ўсталяваны ў Віцебску. Праект, а гэта конная скульптура, прайшоў усе ўзгадненні, цяпер вызначаецца яго кошт і разглядаюцца розныя варыянты стварэння. Як спадзяюцца ўлады Віцебска, манумент паўстане да чэрвеня, калі адзначаецца Дзень горада. Альгерд — першы віцебскі князь, пра якога ёсць пэўныя не легендарныя звесткі.

Міра ІЎКОВІЧ

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць шчырыя спачуванні галоўнаму рэдактару выдавецтва «Мастацкая літаратура» Віктару Шніпу ў сувязі са смерцю БАЦЬКІ.

Калектыў РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» глыбока смуткуе і выказвае шчырыя спачуванні Віктару Шніпу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю БАЦЬКІ.

Супрацоўнікі газеты «Літаратура і мастацтва» выказваюць шчырыя спачуванні былому галоўнаму рэдактару газеты Віктару Шніпу ў сувязі са смерцю БАЦЬКІ.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць і выказваюць шчырыя спачуванні пісьменніку Анатолю Аўруціну ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю БАЦЬКІ.

Калектыў Выдавецкага дома «Звязда» выказвае шчырыя спачуванні былому супрацоўніку Анатолю Аўруціну ў сувязі са смерцю БАЦЬКІ.

# Здабыткі «Маладосці»

Часопіс «Маладосць» у апошнія гады зазнаў істотныя змены. Абнаўленне адбылося літаральна па ўсіх напрамках. Відавочна палепшыўся дызайн выдання. Але галоўнае: адбыўся перагляд яго канцэпцыі і карэкціроўка рэдакцыйна-выдавецкай стратэгіі.

**Іван САВЕРЧАНКА**

Тагачасны галоўны рэдактар часопіса Таццяна Сівец у праграмным артыкуле «Прывітанне» (2011, № 5) агучыла творчае крэда «Маладосці» — арыентацыя на працяг класічных мастацкіх традыцый, высокую рэдакцыйную культуру з імкненнем да новага, творчага асваення раней не вядомага. Паводле задумы Т. Сівец, «кожны нумар «Маладосці» мусіць адкрываць новую зорачку ў беларускіх літаратурных нябёсах».

Вынікі дзейнасці часопіса і яго новага галоўнага рэдактара Святланы Дзянісавай вельмі заўважныя. Асабліва трэба адзначыць дасягненні ў галіне прозы. Тут ёсць сапраўдныя адкрыцці і буйныя мастацкія здабыткі.

Заслугоўвае высокай ацэнкі надзвычай каларытнае апавяданне Ганны Навасельцавай «Чорная лотацьць» (2012, № 2). У ім пісьменніца звярнулася да міфалагічных пластоў народнай культуры, узнавіла пракаветныя замовы і чараванні з іх таямнічай і неразгаданай магіяй слова.

Пра пачатак новага перыяду ў творчасці Анатоля Казлова сведчыць яго аповесць «Афганяючы сны» (2011, № 12). У творы выявілася глыбокае разуменне аўтарам складанай і шматпланавай прыроды чалавека, спалучэнне ў адной асобе высокага і нізкага, нябеснага і зямнога, высакароднага і грахоўнага. Аповесць адметная цікавымі назіраннямі, шчырай спавядальнасцю, філасофскімі разважаннямі пра свабоду і шчасце, вернасць і здраду, праўду і хлусню.




А. Казлоў спрабуе разгадаць таямніцу складаных узаемаадносін паміж людзьмі. Мастацкімі сродкамі пісьменнік асэнсоўвае дзіўную прыроду інстынктаў, іх ролю ў жыцці і паводзінах асобы. Яго цікавіць ірацыянальнае, падсвядомае, «звярынае», што дрэмле ў кожным чалавеку. А. Казлоў смела гаворыць пра недасканаласць чалавечай натуры: «Не любім мы прызнавацца ў сваіх памылках, выстаўляць на ўсеагульны агляд мізэрнасць унутранага свету, свае душэўныя і цялесныя шчарбіны, выродлівасць учынкаў. Хаваем прыроджаны цынізм пад мілай усмешкай».

Вельмі слушныя і дакладныя разважанні пісьменніка пра тонкі свет узаемаадносін паміж закаханымі, пра небяспеку няўважлівасці, абыякавасці, здрады: «Блізкія людзі звязаны між сабою нябачнымі воку ніткамі, танюткімі стужачкамі, крохкімі ланцужкамі, якія разрываюцца ад абыякавага дотыку, няўважлівага позірку, абразлівага слова».

Пісьменнік аднаасова загадкавасць, складанасць жаночай душы, яе непрадказальнасць: «Бо неспазнаная душа жаночая, бяздонная яна ў сваёй любові, як і ў нянавісці, дарэчы. Хто можа дакладна сказаць, што хаваецца на самым донцы сэрца жанчыны?

Заўважная публікацыя года — аповесць Алёны Беланожкі «Чамадан з кракадзілавай скуры» (2012, № 8). Твор прысвечаны сучаснай моладзевай культуры, новым узаемаадносінам у постсавецкі час. Пісьменніца паказвае ўсталяванне ў грамадстве новых каштоўнасцей і прынцыпаў жыцця.

Несумненная ўдача часопіса — публікацыя літаратурнай жамчужыны, выдатнай аповесці Андрэя Федарэнкі «Дзікі луг» (2012, № 4). Паводле шырыні ахопу матэрыялу аповесць А. Федарэнкі — гэта своеасаблівы мікрараман. Галоўныя героі твора — палешукі, кожны са сваім лёсам — шчаслівым і трагічным. Аповесці ўласціва стылёвая адшліфаванасць, літаратурная дасканаласць. У ёй выявілася пісьменніцкая сталасць А. Федарэнкі, яго жыццёвая мудрасць. Нельга не прыслухацца да парады творцы пра абачлівае стаўленне да сямейнага шчасця: «Не трэба хваліцца шчасцем, яно не любіць публічнасці, яго трэба хаваць, нават саромецца яго; шчаслівыя павінны адгарадзіцца ад астатніх дубовымі дзвярамі, жалезнымі замкамі — хаця б дзеля таго, каб не сурочылі».

Экалагічныя пытанні ўздымае Мікола Бусько ў апавяданні «Шэпт стомленай затокі» (2012, № 8). Аўтар апявае непаўторную прыгажосць роднага краю, асуджае бяздумнае вынішчэнне лясоў, выступае супраць браканьерства.

Да ліку здабыткаў варта аднесці мікранавелы і абразкі Паліны Качатковай, апублікаваныя пад загалоўкам «Сны і ўспаміны — усё, што ў мяне ёсць» (2012, № 3). Вельмі хораша чытаецца «антыдзея без дзеючых асоб» «СССР» Вольгі Куртаніч (2012, № 3). Пісьменніца выдатна перадае дух часу, светаадчуванне і перажыванні людзей, якія нарадзіліся ў Савецкім Саюзе. Асабліва ўдалыя тыя старонкі, на якіх гаворыцца пра стан інтэлігенцыі, духоўныя пошукі нашых сучаснікаў.

Інтэлектуальныя і пазнавальна-асветніцкія аспекты часопіса «Маладосць» узмацняюцца навукова-папулярнымі публікацыямі, яркімі эсэ і крытычнымі матэрыяламі.

Найлепшыя ўражанні пакідаюць таленавітыя артыкулы-даследаванні Ірыны Клімковіч. Так, у публікацыі «Ад слова "ведаць"» (2012, № 3) бліскуча раскрываецца феномен вядзьмарства, чарадзейства і знахарства ў Еўропе і на Беларусі. Прыроду міфалагічных істот — русалак — І. Клімковіч асвятляе ў артыкуле «На гранай нядзелі русалкі сядзелі» (2012, № 6). У публікацыі «Травіца брат-сястрыца» (2012, № 7) даследчыца раскрывае загадкавую з'яву — блізняцтва і яго ўспрыманне ў культуры розных народаў свету.

Значнымі ўяўляюцца публікацыі Людмілы Дучыц. Яе артыкул «Аздобы— даспадобы» (2012, № 3) прысвечаны жаночым упрыгажанням у перыяд Сярэднявечча. У артыкуле «Папярэднікі» (2012, № 8) вядзецца грунтоўная размова пра заснавальнікаў беларускай археалогіі — Зарыяна Даленгу-Ходакоўскага, братоў Канстанціна і Яўстаха Тышкевічаў, Еўдакіма Раманава і Тэадора Нарбута.

Нібы захапляльны дэтэктыў, чытаецца глыбокі і наватарскі артыкул Юрася Пацюпы «Невядомы санет Максіма Багдановіча». У ім аналізуецца санет «Ўсплывае грамада сіфанафора…» (2012, № 3), раскрываюцца крыніцы непаўторных метафар паэта, звяртаецца ўвага на імкненне майстра слова да стварэння інтэлектуальных твораў, асвятляюцца яго грамадскія погляды і сацыяльна-філасофская дактрына.

На высокім прафесійным узроўні напісана «Паэзія драматурга» Яўгена Гарадніцкага (2012, № 7), прысвечаная паэтычнай спадчыне Уладзіслава Галубка.

Як бачна, «Маладосць» мае на сваім рахунку значныя мастацкія адкрыцці і эстэтычныя здабыткі. Кожны нумар часопіса — сапраўдная падзея ў духоўна-культурным жыцці краіны.

## Пытанне да творцы

Ягор КОНЕЎ

# Чаго я чакаю ад 2013-га?



Па-першае, актыўнага развіцця нацыянальнага электроннага друку. Цяпер толькі сляпы не заўважыць, што масавы чытач упарта сыходзіць з рэальнай прасторы ў віртуальную. Сусветная тэндэнцыя такая, што дзе болей часу праводзяць чытачы, там болей круціцца і рэкламных сродкаў, за кошт якіх электронныя медыя развіваюцца яшчэ актыўней. Папяровыя газеты і часопісы, вядома, захаваюцца, аднак, мяркую, збольшага будуць выкарыстоўвацца ў якасці прэзентаў.

У Еўрасаюзе і Злучаных Штатах многія электронныя выданні зрабіліся прыбытковымі. Аднак не ўсе, а толькі тыя, дзе працуюць таленавітыя менеджары і мадэратары. Бо каб выданне прыносіла прыбытак, трэба яго бараніць ад процьмы спаму і нецэнзурных постаў, а таксама размяшчаць рэкламу, цікавую чытачу. Прычым гэта не абавязкова рэклама матацыкла або бялізны, але і, напрыклад, інфармацыйных парталаў, блогаў, сайтаў ды інш. Гэтак жа і электронныя кнігі могуць прыносіць прыбытак выдаўцам і аўтарам. Прыкладаў хапае ў суседніх з нашай інфармацыйных прасторах. Аднак трэба рупіцца на гэты конт, а не заклікаць чытачоў вярнуцца да традыцыйнай падпіскі на папяровыя выданні. Рэнесанс падпіскі, можа, і адбудзецца гадоў праз пяць-дзесяць пасля завяршэння сусветнага фінансавага крызісу. Але цяпер, пакуль не пройдзеная нават кульмінацыя гэтага крызісу, нашаму Міністэрству інфармацыі і галоўным рэдактарам варта больш увагі звяртаць на сусветны досвед, а не спадзявацца, што нейкім цудам адродзіцца рэаліі масавага друку 1980-х гадоў.

Па-другое, я чакаю, што заклік галоўнага рэжысёра Нацыянальнага драматычнага тэатра імя Горкага Сяргея Кавальчыка будзе пачуты ва ўсіх тэатрах краіны. Не так даўно ён заявіў у тэлеінтэрв'ю, што варта шырэй адкрыць дарогу для беларускай драматургіі — класічнай і сучаснай. Вядома, такая практыка дзейнічала і да яго прамовы. Напрыклад, рэпертуар Тэатра беларускай драматургіі амаль на тры чвэрці складаецца з п'ес беларускіх аўтараў. Аднак гэта ледзьве не адзінкавы прыклад. У рэпертуары многіх іншых тэатраў трывала прапісаліся Бамаршэ, Шэкспір і Чэхаў. Пры ўсёй глыбокай павазе да твораў класікаў нельга не зазначыць, што чарговая пастаноўка (тысяча першая ў свеце) галоўным чынам цешыць самалюбства таго ці іншага рэжысёра. Я ўсё роўна глыбока перакананы, што аснову рэпертуару беларускіх тэатраў мусяць складаць беларускія аўтары. Інакш цяжкавата будзе ўзгадаваць пачуццё нацыянальнай годнасці і патрыятызму ў душах і сэрцах гледачоў.

Мне часта даводзілася чуць з вуснаў некаторых рэжысёраў, што нашы сучасныя драматургі, маўляў, якасныя п'есы пісаць так і не навучыліся. Мяркую, што за гэтым хаваецца звычайная лянота. Чым працаваць з драматургам, даводзіць твор да ладу і сцэнічнага ўвасаблення, прасцей яго адразу забракаваць і заявіць, што дасканалыя ствараюцца толькі за мяжой, і пераважна памерлымі класікамі. Аднак калі не шчыраваць на гэтай ніве, то анічога карыснага на ёй і не ўзрасце. А каб буяла і квітнела яна, трэба для пачатку стварыць сістэму конкурсаў п'ес, пераможца якіх атрымлівае рэальныя правы на пастаноўку. Такую ж сістэму можна было б выкарыстаць і ў дачыненні да кінасцэнарыяў, кніжных выданняў і г. д.

Няхай жа ўсё згаданае здзейсніцца! І няхай у 2013-м лёсіць усім супрацоўнікам і чытачам «ЛіМа», усім аматарам беларушчыны!

## Юбілеі

# Абаронца Слова

*У святочныя навагоднія дні свой 60-гадовы юбілей адзначае загадчык кафедры гісторыі беларускай мовы філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Мікалай Прыгодзіч. Імя гэтага чалавека добра вядомае ўсім, чые прафесійныя і аматарскія інтарэсы звязаны з жыццём Беларускага Слова. І гэта невыпадкова: доктар філалагічных навук прафесар Мікалай Рыгоравіч больш як 40 гадоў таму вырашыў звязаць свой лёс з беларускай філалогіяй. За гэты час ён напісаў больш як 300 навуковых прац па праблемах гісторыі беларускай мовы і яе сучаснага стану, сярод іх 12 вучэбных і навукова-метадычных дапаможнікаў, 4 слоўнікі, навукова-папулярныя выданні.*

*Цяпер Мікалай Прыгодзіч узначальвае кафедру гісторыі беларускай мовы БДУ, з'яўляецца старшынёй Экспертнага савета па мовазнаўстве ВАК Рэспублікі Беларусь, членам вучонага савета філалагічнага факультэта, намеснікам старшыні Камітэта па прысуджэнні прэміі імя У. Пічэты (філалогія), намеснікам адказнага рэдактара «Весніка БДУ» (серыя IV) і інш. Прафесар Прыгодзіч — арганізатар і ўдзельнік шматлікіх міжнародных навуковых мерапрыемстваў у Венгрыі, Германіі, Польшчы, Расіі, Украіне.*



*Актыўная працоўная і грамадская дзейнасць М. Прыгодзіча адзначана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга (1986), нагрудным знакам «Выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь» (2003), а таксама Ганаровымі граматамі Міністэрства адукацыі, Вышэйшай атэстацыйнай камісіі Рэспублікі Беларусь, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і іншымі высокімі і прэстыжнымі ўзнагародамі.*

**Супрацоўнікі кафедры гісторыі беларускай мовы БДУ**

# Талент яркі, адметны




Як пажартавалі аднойчы бібліятэкары, толькі пералік створанага Васілём Ткачовым на літаратурнай ніве зойме больш старонак, чым у некаторых пісьменнікаў усё, што выйшла з-пад пяра...

**Міхась СЛІВА**

Жарты жартамі, а сапраўды, Васіль Юр'евіч — майстар у многіх жанрах: напісаў раман, дзясяткі п'ес, аповесцей, апавяданняў, гумарэсак, шмат публіцыстычных твораў, кніг для дзяцей. А колькі ў гэтага пісьменніка розных узнагарод і ганаровых званняў, якія сведчаць пра прызнанне яго і дзяржавай, і шырокай грамадскасцю — шматлікімі чытачамі яго кніг і гледачамі спектакляў паводле яго п'ес!

Васіль Ткачоў — лаўрэат прэміі Саюза журналістаў і міжнароднай прэміі «Дружба» за лепшы публіцыстычны твор (нарыс «Сонцам хлеб на стале»); пераможца літаратурнага конкурсу часопіса «Вясёлка» на лепшае апавяданне; лаўрэат літаратурнай прэміі імя М. Доўнар-Запольскага і расійскай прэміі Баяна; лаўрэат абласной літаратурнай прэміі імя А. Капусціна; лаўрэат абласнога літаратурнага конкурсу імя І. Мележа. За кнігу «Снукер» удастоены прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі. Першай прэміяй на рэспубліканскім конкурсе адзначана яго п'еса «Стары і дарога». Узнагароджаны Ганаровай граматай Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. І гэты пералік можна працягваць...

На рахунку пісьменніка больш як дваццаць кніг і каля пяцідзесяці п'ес. Сярод іх кнігі для дзяцей — «Хітры Данік», «Партрэт салдата», «Вятрак — птушка вольная», «Незвычайны дыктант»; для дарослых — «Дзень у горадзе», «Мой рай зямны», «Тратнік», «Дом коммуны», «Снукер», «Под городом Горьким»; кнігі гумару — «Смех на прызбе», «Карасі на пяску», «Крутыя хлопцы», «Булочка»; зборнікі п'ес — «Сівы бусел», «Непаразуменне», «Кто-то ходит под окном»; кнігі нарысаў — «Пахвалі пражыты дзень», «Вячыстыя лясы Гомельшчыны»...

Творы Васіля Ткачова перакладаліся на рускую, украінскую, польскую, туркменскую, удмурцкую і марыйскую мовы.

У шматлікіх прафесійных і народных драматычных тэатрах Беларусі, Расіі і Казахстана, на тэлебачанні і радыё ажыццёўлены пастаноўкі спектакляў паводле п'ес Васіля Ткачова «Вокны», «Сівы бусел», «Курорт для зяця», «Кветкі-ягадкі», «Стары і дарога», «Добрыя адносіны да сабакі», «Лесвіца», «Прыгоды з Канапухіным», «Следчы эксперымент», «Шкірдзюкі займаюць абарону», «Усміхаўся месяц белай вішні», «Нехта ходзіць за акном», «Бліндаж» і іншых.

Займаецца Васіль Юр'евіч і мастацкім перакладам: перастварыў на беларускай мове п'есы Л. Петрушэўскай «Маскоўскі хор», С. Злотнікава «Сцэны каля фантана», казку Л. Усцінава «Старамодныя цуды». Усе яны пастаўленыя ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Якуба Коласа.

Асобныя апавяданні пісьменніка ўключаны ў чытанкі для вучняў малодшых класаў. Кожны год празаік, драматург, публіцыст, літаратурны крытык і перакладчык Васіль Ткачоў радуе чытачоў новымі творамі. З зайздроснай рэгулярнасцю выходзяць кнігі ў выдавецтвах Мінска і Гомеля.

Значны ўклад у развіццё і прапаганду здабыткаў роднай літаратуры ўнёс Васіль Юр'евіч, калі на працягу пятнаццаці гадоў узначальваў Гомельскую абласную пісьменніцкую арганізацыю, блаславіў у дарогу, дапамог «стаць на крыло» многім маладым літаратарам. На абласным тэлебачанні вёў аўтарскую літаратурна-мастацкую праграму «На прызбе з Васілём», быў укладальнікам шматлікіх калектыўных літаратурна-мастацкіх зборнікаў і альманахаў: «Настрой», «Вуліца настаўніцкая», «Магістраль», «Пад небам Палесся» і іншых. А колькі правёў і праводзіць ён сустрэч з чытачамі ў працоўных калектывах прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый! Яго ведаюць ва ўсіх найбуйнейшых бібліятэках вобласці і іншых рэгіёнаў.

Але звернемся да біяграфіі пісьменніка. Нарадзіўся Васіль Ткачоў 1 студзеня 1948 года ў вёсцы Гута на Рагачоўшчыне. Вучыўся ў Іскананскай васьмігодцы Быхаўскага раёна, закончыў сярэднюю школу ў пасёлку Ільіч Рагачоўскага раёна. Са школьных гадоў палюбіў кнігу, прыгожае пісьменства. Быў актыўным селькорам раённых, абласных і рэспубліканскіх газет. Першае апавяданне было надрукавана ў часопісе «Вясёлка».

Пасля заканчэння школы таленавіты юнак некаторы час працаваў у раённых газетах (г. Івацэвічы і г. п. Карма). Затым служыў у Савецкай Арміі, у тым ліку і на сусветна вядомым касмадроме Байканур, дзе быў інструктарам палітаддзела па камсамольскай рабоце. Потым — вучоба на факультэце журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча. Служыў ваенным карэспандэнтам у Сярэдняй Азіі. З 1980 года жыве і працуе ў Гомелі, з'яўляецца членам Саюза пісьменнікаў Беларусі і Саюза тэатральных дзеячаў.

У дзіцячай літаратуры праявіў сябе добрым псіхолагам, які разумее душу маленькага чалавека. Творы яго яркія, запамінальныя, чытаюцца з лёгкасцю і асалодай.

У творах для дарослых В. Ткачоў паказаў уменне маляваць чалавечыя характары. Многія аповесці, апавяданні напісаныя па «гарачых слядах» падзей, адлюстроўваюць сучаснасць, сацыяльныя катаклізмы, якія адбываюцца ў грамадстве. Выявіў пісьменнік і высокае драматургічнае майстэрства. Мова яго герояў па-народнаму трапная, дакладная.

Паўстагоддзя шчыруе Васіль Ткачоў на ніве роднай літаратуры. Многія творы ён напісаў яшчэ ў маладосці, але яны па-ранейшаму ўражваюць сваёй навізной, актуальнасцю, майстэрствам іх аўтара. А гэта ж і з'яўляецца паказчыкам якаснай літаратуры! Пра што сведчыць і наступнае. Нядаўна Саюз пісьменнікаў Беларусі правёў апытанне ў бібліятэках краіны з мэтай выявіць, хто з беларускіх аўтараў найбольш папулярны і запатрабаваны ў чытачоў. Прыемна, што ў гэты спіс увайшоў і Васіль Ткачоў.

Да 65-годдзя пісьменніка ў выдавецтвах Мінска і Гомеля ўбачаць свет яго новыя кнігі «Высокі страх» (апавяданні для дзяцей) і «Варона» (аповесці, апавяданні, гумарэскі). Значыць, Васіль Ткачоў зноў парадуе прыхільнікаў сваёй шматграннай творчасці.

# Зазіраючы ў бездань

*Васіль Гігевіч. Крах цывілізацыі. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2012.*

**Людміла ПАДГАЙСКАЯ**




У свой час Ж.-Ж. Русо лічыў, што толькі ў першабытным грамадстве, якое ён назваў «калыскай чалавецтва», людзі жылі шчасліва, бо былі роўнымі. Яшчэ не парушылася гарманічнае суіснаванне з прыродай, а людзям акрамя інстынкту самазахавання былі ўласцівыя спагада, уважлівае стаўленне да блізкіх. Здабыткі цывілізацыі не прынеслі нічога добрага. Не апраўдала сябе нават развіццё культуры і навукі, бо яны таксама спрыялі ўсталяванню ўсё большай няроўнасці паміж людзьмі. Гэтая думка ў той час уразіла многіх філосафаў. Трактат Русо «Пра няроўнасць» выклікаў бурныя дыскусіі.

Беларускі пісьменнік Васіль Гігевіч у сваіх творах «Страчанае шчасце», «Карабель» і «Марсіянскае падарожжа» змог у мастацкай форме ўвасобіць думку філосафа. Аповесць «Страчанае шчасце» дае магчымасць зазірнуць у гэтую «Калыску чалавецтва». Ды што дзіўна — нам там сапраўды ўтульна. Мы бачым павагу да жанчын (вобраз мудрай жонкі Руна), цнатлівасць моладзі і нараджэнне сапраўднага кахання (Ран і Мая; Му і дзяўчына з чужога роду). Праўда, ёсць ужо і барацьба за ўладу (магутны асілак, Сын мядзведзя). Але старэйшына Род Рун прымае справядлівае рашэнне і такім чынам не дапускае канфлікту паміж людзьмі.

Сапраўды ўражвае ў творы чысціня адносін між людзьмі роду, чысціня адносін да прыроды. Хаця трэба заўважыць, што гісторыкі часцей нам прадстаўляюць зусім іншую карціну жыцця першабытных людзей.

Васіль Гігевіч паказвае, наколькі гарманічна першабытны чалавек спасцігае Космас. На жаль, да такога сучасная асоба не толькі не наблізілася, а, бадай што, усё больш і больш аддаляецца.

У наступных аповесцях «Карабель» і «Марсіянскае падарожжа» аўтар нібы працягвае, развівае думку Ж.-Ж. Русо і паказвае, што можа прынесці цывілізацыя чалавецтву ў будучым. Гэтыя творы пра маральную адказнасць за свае ўчынкі як перад самім сабою, так і перад грамадствам у цэлым. Пасля іх прачытання застаецца ўражанне, падобнае да таго, што пакідае раман Оруэла «1984».

«Вось глядзіце, — трымаючы ў руцэ мой пашпарт, Мілер дэманстратыўна памахаў ім у паветры, — ваш пашпарт, так сказаць, фактычна з'яўляецца адзіным дакументам, які даказвае, што вы — гэта вы, а не хто іншы… Згубіце пашпарт — і вы ніхто… Пашпарт трэба насіць з сабою, але ж яго могуць у любы час у вас украсці, падрабіць. Колькі блытаніны на Зямлі з-за пашпартоў: крадзяжы, забойствы, падробкі фотаздымкаў — жах адзін. І вось штучны розум выдаў ідэю: замяніць пашпарт бранзалет-датчыкам. Бранзалет-датчык будзе выконваць некалькі функцый. Ён будзе ўвесь час падаваць сігналы ў Вялікі Камп'ютар пра вас, пра ваша месцазнаходжанне, цяпер вы ўжо навечна будзеце звязаны з Вялікім Камп'ютарам у адзіную чалавека-машынную сістэму…»

Цікава, што думку пра крах цывілізацыі мы можам знайсці і ў вядомай кнізе філосафа Освальда Шпенглера «Заняпад Еўропы». У ёй цывілізацыя разглядаецца як завяршальны этап культуры. На прыкладзе лакальных цывілізацый, якія развіваюцца цыклічна, Шпенглер робіць высновы, што заходнееўрапейская цывілізацыя прайшла вяршыню свайго развіцця і ўступіла ў перыяд выраджэння, таму што культура пачала ператварацца ў цывілізацыю. Васіль Гігевіч у аповесці «Карабель» вельмі трапна праз фантастычную будучыню паказвае стан сучаснай культуры. «…Тады, калі я стаў камандзірам Карабля, я ўсё рабіў, каб прывучыць людзей да думкі, што жахлівыя відовішчы па тэлевізары, якія бясконца змяняюць адно аднаго, магутная бесталковая какафонія гукаў, якая вырываецца з электраінструментаў і аглушае чалавека, бязладная мазня фарбаў на палотнах, бясглотнае гыгыканне з побытных здарэнняў, якое тыражыруецца ў прыгожых кнігах і называецца высокай культурай, — толькі гэта і ёсць сучаснае сапраўднае мастацтва. <…> Гэтым я хацеў дабіцца адзінага: адвучыць людзей ад сапраўднага мастацтва, не даць чалавеку магчымасць задумацца над сваім лёсам. Таму наша мастацтва было такім крыклівым, яркім, бессэнсоўным…»

У аповесці «Марсіянскае падарожжа» захапляе амаль дэтэктыўнае даследаванне маладога журналіста, які з аднадумцам інжынерам Караневым спрабуе супрацьстаяць Мілеру, халоднаму, як машына, дыктатару. На жаль, героі В. Гігевіча не змаглі перамагчы. Толькі-толькі пачынаеш перажываць, чакаючы перамогі розуму чалавека над машынай, як усё заканчваецца раптоўным выбухам. А чытача пісьменнік пакідае перад страшэннай карцінай разбурэння… «Мы ўсе мелі — тут Мілер гаварыў праўду — і хлеб, вырашчаны на марсіянскіх палях, і адзенне, зробленае на нашых заводах з сінтэтычных тканін, і ваду, сабраную з палярных марсіянскіх шапак, але ў нас не было адзінага, неабходнага чалавеку: кахання, беспрычыннай радасці жыцця… Гэта так жахліва, калі чалавек нічому і нікому не верыць, калі ён нічому не радуецца!.. Я адчуваў: доўга такое не магло працягвацца, штосьці павінна было здарыцца. Нарэшце тое незразумелае, што месяцамі выспявала ў душах калaністаў, выбухнула…»

Упэўнена, новая кніга Васіля Гігевіча «Крах цывілізацыі» стане вялікім адкрыццём для большасці беларускіх чытачоў.

**Павел САКОВІЧ**

## Адну данёс да хаты…

Успомніў ты, як на руках
Насіў дзяўчат, кружыў у танцы.
Дык, можа, рана адвыкаць,
Ты і сягоння маеш шанцы.
**Казімір Камейша**

*Калісь я ў родных Навіках*
*Насіў дзяўчат на дыскатэку.*
*Ў кіно насіў па чацвяргах*
*І нават у бібліятэку.*

*Было, па дзве, а то й па тры*
*Ускідваў, як мяхі, на плечы.*
*Ну, а ў руках трымаў я дрын:*
*Не лезьце, хлопцы, бо — знявечу!*

*Я быў вынослівы юнак,*
*Хоць мазалёў нацёр багата.*
*Насіў я шмат. Шкада, аднак:*
*Адну ўсяго данёс да хаты!*

## Ад'язджаеш? Ад'язджай!

Хай у позірку імжа.
Што з таго?
Разальём па шклянках жаль.
Ад'язджаеш — ад'язджай.
Бог з табой! Бог з табой.
**Людміла Паўлікава-Хейдарава**

*Вось ты зноўку мяне пакідаеш…*
*Што з табой, любы мой?*
*Да каго ж ты цяпер ад'язджаеш?*
*Бог з табой. Бог з табой!*

*Напачатку, калі ты ад'едзеш,*
*Сумна будзе адной.*
*Толькі знаю — былога*
*не вернеш,*
*Дый карысці з цябе было той…*
*Чорт з табой. Чорт з табой!*

## Эпіграмы як рэкламы



**Мікола Шабовіч**
*У цяжкой вазе сатырык,*
*А ўявіце — то-о-онкі лірык.*
*Чуў, прызнацца мушу чэсна,*
*Ён з народаў робіць песні.*
*Ёсць яшчэ ў Міколы шанцы*
*З эпіграм зрабіць… брэйк-танцы!*

**Уладзімір Ермалаеў**
*Ён у вершы нейкім візы*
*Выдаваў нібыта ў Пізу.*
*Ды ад нас Еўропа потым*
*Аддзяляцца стала плотам.*
*Як путана, зноў капрызіць:*
*То прагоніць, то прыблізіць…*
*Не стрываў паэт: без візы*
*Ён паслаў Еўропу ў Пізу,*
*А яшчэ паслаў, здаецца,*
*Ён яе і ў тое месца…*

**Зміцёр БУЗАЦЁР**

**Вадзіму Спрынчану**
*А скажа кожны,*
*што Вадзім Спрынчан,*
*Як верш свой ні захутвай у адзенне,*
*Яго уміў, нібы з грады качан,*
*Да літары апошняе раздзене.*
*Яму ён паказыча нават пятку,*
*Тут, скажа, моцна, далей —*
*ачапятка.*
*Смяшынку зноў прытоіць на шчацэ*
*І за акно зірне па-забіяцку.*
*Радкі паправіць мімаходзь дачцэ*
*І дасць ім ход у друк,*
*як родны бацька.*
*І Галубовіч —*
*крытык незгінальны —*
*Зірне і тут жа рэкне: — Геніяльна!..*




**Мікалаю Чаргінцу**
*Сплыло гадоў нямала, нібы крыг.*
*І не для славы таннай ці карысці*
*Накроіў столькі дэтэктыўных*
*кніг —*
*Не менш, напэўна, чым*
*Агата Крысці.*

*Ад твора і да твора рос і рос,*
*Іх вывяраў ад рыскі і да рыскі.*
*Калі б злажыць тамы*
*ў адзіны стос, —*
*Зраўняўся б са стаўпом*
*Александрыйскім!*

*Умее словам ён людзей сагрэць*
*І адхвастаць, як трэба,*
*марнатраўца.*
*Касец, і жнец, і на дудзе ігрэц,*
*І душ глыбокіх інжынер і знаўца.*

*Вярнуў цалік ягоны востры плуг*
*Тым сашнікам, што з серабра*
*адліты.*
*І аўтар сам даўно ўвайшоў у круг*
*Сусветнай дэтэктыўнае эліты.*

**Валянціне Паліканінай**
*Нягеглых вершаў, непрыкаяных*
*Ніхто не знойдзе ў Паліканінай.*
*Як не гуляй сабе у хованкі,*
*А ледзь кране яна струну —*
*На воблаку, як на пуховіку,*
*Не ўлежаць нават перуну!*
*Для паэтэсы, як спакусніцы, —*
*Што суджана — таму бываць! —*
*Упрысядкі ён спрытна пусціцца,*
*Чачотку стане выбіваць!*



**Уладзіміру Гініямёдаву**
*Прыйшла і сталасці пара!*
*Бач, без натугі і запаркі*
*Ляцяць старонкі з-пад пяра,*
*Як дошкі дзесь з-пад цыркуляркі!*

*Раздзелы жонцы чытане,*
*Нібы на смак спрабуе бэры.*
*А жонка: — Тут, дзе пра мяне,*
*Напэўна, лепш, чым у Флабэра!*

**Анатолю Шушко**
*Расхваліць жонку ў вершыку, хітрун,*
*І доступ мае ён да тое кадкі,*
*З якой смакуе пахкі мёд-цякун,*
*Мурлыкае пад нос і — анігадкі!*

*Бывае, падазрона гляне ў століь —*
*Ці не набегла па жыроўцы пеня?*
*А жонка да яго: — Ідзі за стол*
*Ды сербані заскваранай крупені!*



**Раісе Баравіковай**
*Ну што за вочы, што за бровы*
*У панны, глянь, Баравіковай!*
*Такою пекнай прыгажосцю*
*Чаруюць толькі ў маладосці.*
*Калі ўсміхнецца часам Рая,*
*Ты напаўкроку ўжо ад раю.*
*Але сябе паводзіць трэба,*
*Як і вядуць на сёмым небе.*
*Бо могуць, памятай, з-за дамы,*
*Сваёй нядобраю чаргой,*
*Адтуль, як грэшніка Адама,*
*Турнуць у плечы качаргой.*

**Івану Муравейку**
*Ледзь на світанку Муравейка*
*Узніме ўгору крыху вейкі,*
*Як бачыць побач дзіва, цуд*
*Ягоны зрок, як брытва, востры.*
*І ён стварае верш-эцюд,*
*Хаця яму за дзевяноста.*
*Няўжо — ён краем вока гляне —*
*Радкі ізноўку пра каханне?*

**Алегу Салтуку**
*У дзверы муза: — Тук ды тук!*
*Ці тут жыве спадар Салтук?*
*Свой шле дарунак Новы год —*
*Прымай ля ганка вунь сумёт!*

*Шле віншаванне Нераток,*
*А з ім Стаховіч, як мадона.*
*Бо маеш прэмію, браток,*
*Ты залатога Купідона!*
*Зноў можаш любай цераз буру*
*Ты з ім пасладзь стралу Амура.*



**Юру Сапажкову**
*Пачуццяў утаймуе ўмела буру.*
*Слабому ён паможа ўстаць з калень.*
*Верш адмастачыць*
*па-майстэрску Юра*
*І скажа: "Вось табе і Юр'еў дзень!"*

**Валянціне Кадзетавай**
*Бярэ інтрыгу, жменю слёз,*
*Наган і каліўца тратылу.*
*І — вось гатоў ён, сімбіёз,*
*Сямейнай драмы з дэтэктывам.*

*І сярод клопату карчоў*
*Так, як бывае не зачаста,*
*Падзякі йдуць ад чытачоў*
*І міліцэйскага начальства.*

**Міколу Мятліцкаму**
*Агледзеў па-сыноўняму як след*
*Надпрыпяцкія выпасы упрэлыя.*
*Сказаў ён слова праўды, як паэт,*
*І лаўрэатам стаў Дзяржаўнай прэміі.*
*Напіўся ўдосталь зноў*
*з лясных крыніц,*
*Што дзесь бруяць і сёння*
*пад Чарнобылем.*
*Не грэх яму Стакгольм*
*цяпер прысніць*
*І той вянок, што сплецены*
*быў Нобелем.*

**Віктару Праўдзіну**
*Нашто пытацца аб адным і тым —*
*У творы праўда ці ад праўды дым*
*Пры ордэнах, як кажуць, і парадзе,*
*Калі пад творам не, не псеўданім,*
*Імя стаіць, гаворыць аб адным —*
*Шчыруе, як пчала, празаік Праўдзін!*



# Васіль ТКАЧОЎ

# Дэлегат

*Апавяданне*

Паэт Дзяніс Пацяруха, вяртаючыся надоечы з гарадской бібліятэкі, дзе, як заўсёды, горача выступаў перад чытачамі, знайшоў у паштовай скрыні канверт. Звычайна ён раўнадушна праходзіў каля яе. А тут неяк само атрымалася, што затрымаў позірк на тых дзірачках-круглячках, у якіх і свяцілася белым бокам папера. «Што за дзівосы! — трывожна і адначасова радасна падумаў паэт. — Пісьмо хіба? Газет жа я не выпісваю. Ганарараў не атрымліваю — не друкуюць, усё толькі абяцаюць... і тое, калі патэлефануеш ім, блазнюкам...» Ён дрыготкімі пальцамі ўзяў канверт, хуценька разарваў яго, выцягнуў утрая складзены лісток і, не адыходзячы далёка, падслепавата прачытаў: «Шаноўны Дзяніс Іванавіч! Запрашаем Вас на першы арганізацыйны з'езд графаманаў, які адбудзецца ў Мінску...» Так-так... І што там далей? Ну-ну. «Вы з'яўляецеся дэлегатам...» Ён адчуў, як цела няйнакш абліло кіпенем. Пацяруха пастаяў крыху знямела, затым, бы прачнуўшыся, пакруціў перад носам паперку-запрашэнне, хмыкнуў, агледзеўся па баках: у калідоры якраз было бязлюдна, і тады толькі смела і агрэсіўна трасянуў паперкай над галавой, гучна заявіў сваім нябачным ворагам:

— Не дачакаецеся! Чулі?! Знайшлі дэлегата!.. Ды са мной сам Пушкін пацягаўся б!.. Багдановіч!.. Купала!.. Колас!.. Шніп!..

Настрой сапсаваўся канчаткова. Мала таго, што на той сустрэчы, з якой толькі што вяртаўся, адзін дужа нахабны мужчына — на яго, вядома ж, думку — заявіў, што такія вершы ён і сам бы склаў як няма чаго рабіць, каб толькі ў яго меліся папера і ручка, дык яшчэ гэткае вось запрашэнне!..

Жонка адразу, калі Пацяруха толькі пераступіў парог, падумала, што муж няйначай знайшоў удалую рыфму, але не запомніў яе, тут жа і згубіў, не данёс да пісьмовага стала, бо твар у чалавека быў пахмурны, як нудны восеньскі дзень.

— Есці будзеш? — толькі і папытала кабета.

Пацяруха хацеў быў сказаць: «Я сыты. Мяне ўжо накармілі», — аднак узяў сябе ў рукі, старараўся быць самім сабой: канечне ж, усміхнуўся, хоць, адчуў, усмешка выдала яго хваляванне. Няўдалая атрымалася. Кіслая. А потым доўга расказваў жонцы, як цёпла прымалі яго чытачы. Сёрбаў варыва, хваліўся, а сам цвёрда рашыў: жонцы пра выклік на з'езд графаманаў ні слова. І вельмі добра, што кабета пайшла пасядзець на лаве з бабулькамі каля пад'езда. Пацяруха адразу ж прыкіпеў да тэлефона. Спярша мітусліва гартаў блакнодік, дзе былі пазначаны нумары яго сяброў-паэтаў, і вызначаў, каму ж першаму пазваніць. «У Гродна хіба? Няхайчыку? Хлапец неблагі, здаецца». Той раз, калі абмяркоўвалі яго вершы на імпрэзе, Пацяруха падтрымаў яго. «Павінен помніць. Ды і чарку ж бралі».

Няхайчык узрадаваўся, калі пачуў у слухаўцы знаёмы голас. Распавёў пра свае поспехі, паскардзіўся, што ў іх горадзе аб'явілася адна жанчына-крытыканка, якая не дае яму жыцця: то там ушчыпне, то тут. Маўляў, графаман ты, Няхайчык! Якраз вось тут і хацеў папытаць Пацяруха, ці атрымаў той пісьмо на з'езд графаманаў, аднак не хапіла духу. І тады ён пачаў здалёк: нікуды, шаноўны калега, у бліжэйшы час не едзеш? Мо выклікаюць куды цябе? Няхайчык, на здзіўленне, адказваў адным словам: не. Пацяруха ледзьве стрымліваў злосць. Накіпела. «Так і прызнаецца гэты Няхайчык! Тып яшчэ той!» Ужо калі паклаў слухаўку, крыху супакоіўся: нічога-нічога, мне сёння прынеслі пісьмо, табе прынясуць заўтра. Нікуды не дзенешся. Паштары сваю справу знаюць. Бо які ён паэт?! Вось хто ўжо калі і графаман, то ён, Няхайчык! Ці трэба казаць? Не, не выкруціцца!..

Але сёння Пацяруха рашыў больш нікому не тэлефанаваць. Сцяміў: трэба даць час, каб тыя запрашэнні паспелі даставіць паштальёны па належных адрасах. І ў Магілёве, і ў Віцебску, і ў іншых гарадах. У сваім жа горадзе не стаў нікога турбаваць. Сваіх ён ведаў добра: яны, хоць і атрымаюць запрашэнні, не прызнаюцца. Партызаны яшчэ тыя.

На другі дзень, напісаўшы паўтузіна вершаў і дачакаўшыся, калі жонка зноў зойме месца на лаве перад пад'ездам, Пацяруха бадзёра пацёр далонямі і сам сабе загадаў: «За справу!» Выбар спыніў на Магілёве. Неяк быў ён на свяце паэзіі і там пазнаёміўся з адной паэтэсай у капелюшы, якая выдала ажно шэсць кніжак вершаў і хацела іх адразу прачытаць прысутным, стоячы на сцэне перад мікрафонам, але ёй усё ж спынілі нейкім чынам, хоць і каштавала гэта вялікіх намаганняў.

Пацяруха крэкнуў, прадставіўся.

— А-а, Гомель! Вельмі рада, вельмі рада пачуць ваш голас, шаноўны! — пачуў ён у адказ і далей як ні стараўся, доўга не мог уціснуцца ў гамонку.— Я вас толькі што ўспаміналa, так-так. Верыце? А вы і лёгкі, як кажуць, на ўспамін. Што пішацца? Якія тэмы хвалююць? Потым, потым скажаце... Дайце нагаварыцца спярша мне. Я ж адна жыву... кантактаў амаль ніякіх, то засумавала... Гэта я вам не казала, што адна? Там, на лузе? Не, здаецца, нам жа не было калі... Дык вось і добра, што вы патэлефанавалі, я вам зараз прачытаю свае новыя вершы... Сваім усім я прачытала ўчора, то дужа хвалілі... Але ж мне хочацца пачуць слова пахвалы і ад вас, шаноўны... як гэта вас зваць, прабачце?..

Пацяруха рады быў, што яму нарэшце прадставілася магчымасць сказаць хоць гэтыя два словы: Дзяніс Іванавіч.

— Дык вось, Дзяніс Іванавіч, — адразу ж падхапіла магілёўская паэтэса, — мне хочацца пакаштаваць хоць трохі пахвалы і міжгародняй, так сказаць... Не будзем губляць часу — слухайце мае новыя вершы... Ага, вам спярша пра каханне ці пра прыроду? Магу і пра горад, пра замежныя краіны, дзе я падарожнічаю іншы раз, седзячы перад экранам тэлевізара. Э-х-ха-ха-ха-а-а-а!.. Мы, паэты, павінны самі ствараць для сябе камфорт і ўтульнасць, каб было цёпла і светла...

— Мне ўсё роўна, — калі ўтварылася нарэшце паўза, ціха прамовіў Пацяруха і пашкадаваў, што не той набраў нумар: трапіў, адным словам, як рыбіна ў нерат, а яму ж чым хутчэй карцела даведацца пра з'езд.

Нарэшце ён знайшоў выйсце, як спыніць чужую тараскатню, параіў:

— А вы гэты верш прачытайце на з'ездзе... Успрымуць! З'ядуць! Геніяльны ж твор! Супер!



Малюнак Аляксандра Пятрова

— На якім гэта такім з'ездзе? — паэтэса прытармазіла, зацікавілася.

— А што, вы хіба не чулі?

— Не.

— А я чуў... быццам нейкі з'езд намячаецца... Гэта мне сказаў адзін тут наш паэт, яго запрасілі... Дзіўна, і мне нічога не даслалі... А яму, кажа, прыйшло запрашэнне... Яны што — праз аднаго?.. Выбарачна?.. У каго пальцам тыцнулі — той і дэлегат, так атрымліваецца? Непарадак! Самавольства!.. Хоць нас, вядома ж, гэта і не тычыць, аднак справядлівасць павінна існаваць усюды. У якой дзяржаве жывём, папытаць бы?!.

Крыху пакрытыкавалі каго трэба, і чытка вершаў працягвалася. Хоць ужо і аслабла рука, трымаючы слухаўку, замлела, аднак Пацяруха, расчараваны няўдалым званком, рашыў нарэшце ўзяць ініцыятыву ў свае рукі, і цяпер вершы слухала ўжо яна, магілёўская паэтэса. Гэта працягвалася б, відаць, доўга, аднак вярнулася з лавы жонка і папрасіла, каб саступіў ёй месца каля тэлефона: дрэнна зрабілася камусьці з бабулек, неабходна выклікаць «хуткую».

Жонка ўладкавалася каля тэлефона, а Пацяруха пачаў усё ж збірацца на з'езд. Было не было. Цікава ж паглядзець, каго яшчэ выклікалі. Дастаў заначку, апрануў новы бліскучы касцюм, кінуў у старэнькі дыпламат некалькі кніжак сваіх вершаў.

А шчыра сказаць калі, у яго меўся свой план на гэтую паездку...

— Ты куды гэта сабраўся? — напусціла на сябе строгасць жонка. — Чаму маўчыш? Я ў каго пытаю?

Пацяруха замахаў на кабету рукамі, маўляў, не да цябе зараз. Тут вырашаюцца важныя справы. А калі прыдумаў, што сказаць, тое і давёў да яе ведама:

— У сталіцу еду. Выклікаюць па літаратурных справах. Няйначай, прызналі? Як думаеш?

— Ну, калі па літаратурных справах... — няпэўна паціснула плячыма кабета, — то глядзі сам, Дзёня...

— Толькі што патэлефанавалі, — схлусіў, не міргнуўшы і на гэты раз вокам, Пацяруха. — Праезд аплацяць. Усё чын па чыну. Мо ўзаб'ёмся на якую-небудзь прэмію? Павінны!

Жонка села на табурэт, сумна ўздыхнула:

— Усе ж мне шкада цябе, Дзёня, вельмі нават. Столькі ты вершаў напісаў, столькі грошай патраціў на свае кнігі — і ўсё ўпустую...

— Пакуль, пакуль, — суцешыў жонку паэт. — Бачу сябе на п'едэстале з лаўровым вянком.

— Каб жа збылося!

— Збудзецца! Даю слова! Мой радок сам Барадулін хваліў! Мускулісты, кажа, у цябе радок, Пацяруха! Быць табе класікам! Прабач, толькі пасля мяне. А мне, скажы, якая розніца — пасля каго, га? То-та ж!

— Ну, едзь сабе,— зусім расчулілася жонка, адлічыла мужу грошы на дарогу і абед, што зусім някепска было да ягонай заначкі, і Пацяруха даў «буську» кабеце, прычыніў за сабой дзверы.

Прымай, сталіца!

Першай справай паэт накіраваўся да філармоніі, дзе павінен адбыцца з'езд. Але ён не дурань, каб адразу ж перціся ў дзверы, паказвацца, а схаваўся за дрэва якраз насупраць шыльды, якая ўказвала, што гэты бульвар носіць імя Мулявіна, і прыняўся назіраць за развіццём сітуацыі. Ага, вунь і Няхайчык шпацыруе! «Гэта той, каго не выклікалі!» Пацяруха на нейкі момант забыўся, што патрэбна захоўваць канспірацыю, хацеў было крыкнуць яму: «Прывітанне, дружа!» — аднак своечасова спахапіўся. Ды і каму было крычаць, калі Няхайчык схаваўся ў апошні момант за дрэвам насупраць і таксама сачыў за ўваходнымі дзвярыма, зрэдку выторкваючыся лысінай. Тут ён заўважыў, што з суседняга куста назірае за дзвярыма паэтэса ў капелюшы... А вунь празаік Цяпкін крадком выглядвае з-за парапета, як спускацца-падымацца ў метро... Ён з Брэста, здаецца... А вунь... А вунь... А вунь... Божа, ды тут дзясяткі знаёмых твараў! І ніхто не адважваецца першым заходзіць у памяшканне... Усе стаіліся і толькі зрэдку выглядваюць са сваіх схованак. Сядзяць у абароне. Калі ж пачнецца наступленне? Ну канечне ж, каму гэта ахвота заходзіць на той з'езд! Дурняў няма. Засмяюць. Як першаму шчэ які прыз дадуць, картку размесцяць у газетах. Не! Туды ходу і яму, Пацяруху, няма! Навошта выторквацца, як Піліп з канопляў? А вось хто прыехаў на той з'езд — цікава паглядзець. Але трэба зрабіць гэта так, каб сябе не паказаць.

Так, мусіць, думаў не толькі Пацяруха — кожны з дэлегатаў. Бач, колькі іх, графаманаў, варушыцца ў хмызах ды за дрэвамі і калонамі!..

І нядоўга думаючы Дзяніс Іванавіч потайкам, задворкамі ўзяў накірунак да бліжэйшага прыпынку. Трэба недзе выпіць куфаль піва, з'есці піражок — і дадому, за пісьмовы стол. Пісаць, пісаць, пісаць!..

...Пацяруха ляжаў на канапе і глядзеў у столь, адкуль, між іншым, нярэдка чэрпаў тэмы. Там сядзела вялікая муха.

— Нахабніца! — крыкнуў ён. — Прэч, сказаў!

Муха не слухалася, прыліпла да аднаго месца на стале, і хоць ты што ёй. Ён пачаў шукаць тапак, каб запусціць ім у пачвару, аднак таго нідзе не было. Патэпаў на кухню, там кабета гатавала вячэру, папытаў у яе:

— Маруся, ты выпадкова тапак маіх не бачыла? Муха на столі сядзіць, каб яе пранцы!

Маруся зарагатала, што здзівіла паэта: даўно, вельмі даўно не было ў яе такога настрою. «Што гэта з ёй? З чаго б?..»

— Дапісаўся, — жонка нарэшце перастала рагатаць, пахітала галавой. — Ды ты на свае ногі глянь, паэт! Ой, гора!..

Пацяруха і сам цяпер ужо добра бачыў, што ён стаяў у тапках. Нічога не сказаўшы, ён пайшоў у свой пакой, паглядзеў на столь, аднак мухі там ужо не было. Яе не было нідзе. Але што гэта? Яна, муха, поўзае па ягоным твары?! Ну, пачакай, нахабніца! Пацяруха табе такога ніколі не даруе. Ён сабраўся, прыцэліўся і з усяго размаху моцна ляснуў сабе па лбе.

І... прачнуўся.

Доўга ляжаў потым пад коўдрай і адчуваў сябе надта шчаслівым чалавекам. «Прысніцца ж розная лухта», — думаў-разважаў Пацяруха і асцярожна кратаў тое месца, па якім толькі што ляпнуў далонню.

# КАМЯНЕЦКІ СТОЎП, або Шлях да ісціны

Яго акруглы, з шырокім носам ды пухлаватымі вуснамі твар авеяны спакоем, непасрэднасцю і даверам. Ледзь прымружаныя лагодныя вочы випраменьваюць зацікаўленасць і ўвагу. Мабыць, кожны з яго суразмоўцаў прыкмячае іх характэрны вохрыста-цёплы колер з карычнева-залацістым адлівам. У вачах — сховы вялікай унутранай энергіі, глыбокага жыццёвага досведу, магутнага народнага інтэлекту і мудрасці. Яны свецяцца залацінкамі дабрыні і шчырадушнасці.

Мікола МІКУЛІЧ

Яго позірк прамы, зычлівы, з ледзьве прыкметнымі іскрынкамі дасціпнай іроніі і сяброўскага жарту. Часам складваецца ўражанне, што ён толькі і шукае магчымасці, каб заліцца дружалюбным смехам.

Пад кароткімі кусцістымі валасамі на шырокім ілбе, нібыта раскінутыя ў палёце птушыныя крылы, пралеглі даволі глыбокія зморшчыны. Яны сведчаць пра тое, што яму даводзіцца шмат думаць ды нямала перажываць.

Гэта ён, Уладзімір Васільевіч Гніламёдаў, выдатны беларускі літаратуразнаўца, літаратурны крытык, пісьменнік і мой дарагі настаўнік. Падумаю пра яго — і ажывае мінулае, перад вачамі паўстаюць доўгія гады натхнёнай сумеснай працы, абмеркаванне складаных навуковых праблем, грамадска-сацыяльных працэсаў, творчасці таго ці іншага пісьменніка...

Пры сустрэчы яго адкрытае ўсмешлівае аблічча неяк рашуча падаецца наперад, выпраменьваючы ветлівую прыязнасць і сяброўскую радасць. І вось ты ўжо адчуваеш сваю руку ў яго шырокай і мяккай далоні і тым самым нібыта атрымліваеш благаславенне на шчырасць, дабрыню і праўду. Здаецца, усё ў ягоных паводзінах гаворыць пра тое, што ён думаў пра цябе, хацеў бачыць, чакаў... І ад усведамлення гэтага тваю душу агортвае хваля ўдзячнай цеплыні і шчымлівай пяшчоты.

Даволі часта сустракаючыся і гутарачы з Уладзімірам Васільевічам, я заўважыў, што ён любіць звяртацца да мовы насычанага позірку, экспрэсіўнага мімічнага жэсту, ёмістага эмацыянальна-пачуццёвага ўздыху, урэшце, да выразнай і характарыстычнай мовы маўчання.

Вось ён неяк доўга не пазірае на цябе і, здаецца, не слухае, аднак пры гэтым добра адчувае. Ён можа літаральна прашыць свайго суразмоўцу працяглым позіркам, як секанууць мячом ці шабляй. А можа паглядзець, быццам праверыць на дабраякаснасць, на шчырасць, сумленне.

Часам яго настойлівы позірк разане тваю душу і неміласэрна кіне яе ў кіпень млосна-шчымлівай трывогі, прымусіўшы адчуць сваю непаўнавартаснасць і заняпаласць. А пасля неспадзявана падорыць крылы вітальнае надзеі і пагайдае пад аблокамі.

Гаворыць Уладзімір Васільевіч павольна, не спяшаючыся, роздумна, нібыта прыглядаючыся да кожнага новага слова, памалу намацваючы скразную сюжэтную думку, але разам з тым акцэнтавана, выразна і ўпэўнена. Прамаўляе так, што слова ніколі не апярэджвае думку, якая яго нараджае, абавязкова прыслухоўваецца да яе характару і настрою.

У густой мелодыцы яго голасу, чэпкай энергетыцы, якую нясе Уладзімір Гніламёдаў, жывапіснай моўнай палітры я чую веліччы подых Белавежскай пушчы, разгоністы гул палескай дубровы, адвечны спакой беларускіх абшараў і краявідаў. Яны завароджваюць і скараюць, дарэшты забіраюць тваю ўвагу. Гаворыць, здаецца, проста, аднак заўжды насычана, ёміста, займальна, з замешанай на аргументаванай логіцы цікавай інтэрпрэтацыяй праблемнага матэрыялу і, як правіла, з выхадам на значныя сацыяльныя абагульненні. Пра што б ён ні разважаў — пра прыроду і сацыяльную значнасць літаратуры як феномена духоўнай свядомасці, мэту чалавечага жыцця, ісціну і хараство ў свеце, след чалавека на зямлі — усе ці амаль усе яго думкі ўспрымаюцца не проста як цікавыя навуковыя і жыццёвыя назіранні, а як арыгінальныя і самабытныя філасофскія адкрыцці.




Знешне Уладзімір Гніламёдаў, мабыць, менш за ўсё падобны да сучаснага тыповага беларуса. Наадварот, хутчэй да якога-небудзь старажытнага асірыйскага цара. Сапраўды, у адмысловых рысах яго твару аддалена ўгадваецца штосьці гістарычнае, паўднёвае, можа, нават цюркскахазарскае.

Няспешна-паважныя, у нечым нават панавітыя рухі, размашыстая паходка, высока ўзнятая галава... Слухаючы яго, вы абавязкова згадаеце пра знакаміты Камянецкі стоўп. Сваёй магутнай паставай, каларытнай натурай, адмысловай самавітасцю Уладзімір Гніламёдаў нагадвае гэты вядомы помнік старажытнай архітэктуры. Ёсць нешта мануменатльнае ў яго важнай постаці, на якую нельга не звярнуць увагі.

Гэты магутны стоўп-асілак — асоба першай велічыні ў сучаснай беларускай гуманітарыстыцы і культуры. Выдатны тэарэтык і гісторык літаратуры, доктар філалагічных навук, прафесар, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і выдатны мастак-практык, пісьменнік-раманіст. Класік сучаснага беларускага літаратуразнаўства, патрыярх айчыннага слоўнага мастацтва. Тое, што Уладзімір Гніламёдаў робіць у нацыянальнай культуры, вядома далёка за яе межамі. Яго кнігі чыталі і чытаюць не толькі ў Расіі і ва Украіне, але і ў Польшчы, Балгарыі, Чэхіі. Аднак вы не прыкмеціце ў асобе Уладзіміра Васільевіча нават намёку на нейкі фанабэрлівы арыстакратызм або выбранасць. У яго фактурнай постаці за вонкавай стрыманасцю, а часам і суровасцю каларытнай натуры прытоена вялікае сэрца і чулая, трапяткая душа тонкага летуценніка і высакароднага рамантыка. Ад яго зыходзіць веліч духу і волі, гістарычны спакой вякоў і самадастатковасць. Ён увесь поўніцца беларускай народнай сілай і праўдай. Гэта чалавек светлага розуму, маштабнага мыслення, высокай унутранай культуры і ў той жа час сціплы, сумленны, разважлівы.

Яго мажную, але рухавую постаць вы можаце сустрэць і ў калідорах Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі, дзе ён працуе галоўным навуковым супрацоўнікам і старшынёй савета па абароне дысертацый, і ў Саюзе пісьменнікаў, дзе з'яўляецца членам праўлення, на літаратурнай вечарыне, прэзентацыі кнігі і г. д.

Уладзімір Гніламёдаў — цэльная чалавечая натура, якая, з аднаго боку, заўсёды прытрымліваецца ўзважаных і прынцыповых перакананняў і ацэнак, а з другога, з'яўляецца пластычнай і рухомай у душэўна-псіхалагічным плане. Ён увесь прасякнуты духоносным пачаткам, я б сказаў, канструктыўна-стваральнай ідэяй яднання. Якая б складаная праблема з яго ўдзелам ні вырашалася, Уладзімір Васільевіч абавязкова шукае кампрамісу, узаемаразумення і згоды. Па ўсім відаць, яму вельмі блізкая думка, выказаная ў далёкія часы адным з рымскіх гісторыкаў: «Пры яднанні і малое расце, пры разладзе і сварках і найвялікшае апынецца ў заняпадзе».

Ён заўсёды верны сабе, сваім адчуванням і ўяўленням, і ў той жа час ніколі не ідзе на канфлікт — усё робіць дзеля таго, каб пазбегнуць напружанасці. Мне сёння здаецца — гэта вялікі прыродны душэўна-чалавечы дар. Што б ні адбылося, як бы ні разгортваліся падзеі, Уладзімір Васільевіч заўсёды здолее паразумецца з чалавекам, які па розных прычынах прытрымліваецца адрозных ад яго думак і меркаванняў.

Думаецца, якраз гэтыя асобасныя якасці, а таксама несумненныя арганізатарскія ці, як сёння б сказалі, менеджарскія здольнасці, пачуццё адказнасці за даручаную справу абумовілі той факт, што Уладзімір Гніламёдаў фактычна ўсё сваё жыццё займаў адказныя кіруючыя пасады. Ён 22 гады (з 1977-га па 1999-ы) працаваў загадчыкам аддзела тэорыі літаратуры Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі, 21 год (з 1976-га па 1997-ы) — намеснікам дырэктара Інстытута па навуковай рабоце і амаль 10 гадоў (з 1997-га па 2006-ы) — яго дырэктарам. А да гэтага, як вядома, было сем гадоў (з 1969-га па 1976-ы) службы ў ЦК КПБ на пасадах інструктара і загадчыка сектара мастацкай літаратуры, калі яму даводзілася адказваць за работу Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Намеснікам дырэктара Інстытута літаратуры Уладзімір Васільевіч быў тады, калі яго ўзначальвалі такія аўтарытэтныя ў нашай навуцы і культуры асобы, як акадэмікі і пісьменнікі Іван Навуменка і Віктар Каваленка. Працуючы дырэктарам, ён здолеў паспяхова прадоўжыць традыцыі сваіх выдатных папярэднікаў, забяспечыў далейшае развіццё ўстановы, актывізацыю пошукаў акадэмічнага літаратуразнаўства па ўсіх актуальных навуковых напрамках. Сёння яго тагачасная дзейнасць успрымаецца калегамі не інакш як «разумнае, чалавеказнаўчае кіраванне» (Міхась Мушынскі). «Да дырэктара Гніламёдава, — прызнаецца Вячаслаў Чамярыцкі, — хацелася ісці, бо кожны ведаў, што гэты чалавек заўсёды выслухае, знойдзе кампраміс, дапаможа вырашыць праблему».

У тыя гады ў Інстытуце літаратуры панавала атмасфера даверу і павагі да асобы навуковага работніка, натхнёнай творчай працы і адказнасці за яе вынікі, дабратворнай навуковай канкурэнцыі і самасцвярджэння. Пад кіраўніцтвам Уладзіміра Гніламёдава і пры яго непасрэдным удзеле ажыццяўляліся такія фундаментальныя праекты, як «Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя» ў 4 тамах 5 кнігах, «Гісторыя беларускай літаратуры XI — XIX стагоддзяў» у 2 тамах, «Анталогія даўняй беларускай літаратуры: XI — першая палова XVIII стагоддзя», вялася распрацоўка Збору твораў Якуба Коласа ў 20 тамах, Збору твораў Максіма Танка ў 13 тамах, шматлікіх манаграфічных выданняў і інш.

У той перыяд манаграфічна даследаванні апублікаваў і сам Уладзімір Васільевіч. Яго кнігі «Сучасная беларуская паэзія: творчая індывідуальнасць і літаратурны працэс» (1983), «Ля аднаго вогнішча» (1984), «Іван Мележ: нарыс жыцця і творчасці» (1984), «Класікі і сучаснікі» (1987), «Праўда зерня: творчы партрэт Васіля Зуёнка» (1992), «Ад даўніны да сучаснасці: нарыс пра беларускую паэзію» (2001), «Янка Купала: жыццё і творчасць» (2002) і іншыя прысвечаны вывучэнню самых складаных і актуальных праблем гісторыі беларускай нацыянальнай літаратуры. Яны ўражваюць багаццем фактаалгічнага зместу, смеласцю і арыгінальнасцю тэарэтыка-метадалагічнага мыслення, аналітычным асэнсаваннем ідэйна-мастацкіх з'яў, падкрэсленай важкасцю ацэнак і заключэнняў.

Акадэмік Уладзімір Гніламёдаў з'яўляецца галоўным тэарэтыкам і філасофам у сучаснай беларускай навуцы пра літаратуру, галоўным знаўцам творчасці Я. Купалы, І. Мележа, М. Танка, А. Куляшова, П. Панчанкі, Р. Барадуліна, В. Зуёнка, без перабольшання, — усёй сучаснай беларускай паэзіі, а таксама літаратуры беларускага замежжа, у прыватнасці, беларускай літаратуры ў Польшчы. Гэта ён, Уладзімір Васільевіч, вучыў мяне асновам спасціжэння філасофіі творчасці М. Танка, аналізу спецыфікі ідэйна-вобразнага свету і мастацкага стылю народнага паэта Беларусі.

**Цалкам артыкул Міколы Мікуліча будзе надрукаваны на старонках часопіса «Полымя».**

# Бібліяграфія як навігатар



На пачатку года Змяі, нібы скідваючы «старую скуру», абнаўляецца традыцыйная рубрыка «Кніжнага свету» «Навінкі кнігавыдання» (што можна пабачыць ужо цяпер, зірнуўшы на 12-ю старонку). Цягам года шмат змен будзе і ў змесце самога праекта. Але супрацоўніцтва штотыднёвіка «ЛіМ» і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі працягваецца. Пра гэта і не толькі — наша гутарка з дырэктарам Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі Аленай Івановай.

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота Кастуся Дробава

**— Алена Віталеўна, калі мы толькі распачыналі праект «Кніжны свет», мы шмат разважалі пра неабходнасць змяшчэння бібліяграфіі...**

— Сапраўды. І такі крок падаецца цалкам лагічным, бо гісторыя публікацыі бібліяграфіі на старонках спецыяльных перыядычных выданняў налічвае ўжо не адзін дзясятак год. Першая публікацыя дзяржаўнай бібліяграфіі Беларусі з'явілася ў 1924 годзе, яна называлася «Летапіс беларускага друку» і пабачыла свет менавіта на старонках перыядычнага выдання — часопіса «Асвета» пад рубрыкай «Кнігапіс». Многія, напэўна, памятаюць бібліяграфічныя публікацыі ў газетах «Кнігарня», «Книга и мы», «Книжный мир», што з'яўляліся ў 1980 — 1990-я гады. У цэлым, складана назваць перыядычнае выданне, якое б не змяшчала бібліяграфічную інфармацыю таго ці іншага кшталту. Гэта і тэматычныя спісы літаратуры, агляды, і рэцэнзіі на кнігі, кніжныя рэйтынгі, рэклама кніг і многае іншае. Так, у штогадовым бібліяграфічным паказальніку Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі «Паказальнік бібліяграфічных дапаможнікаў Беларусі» публікуецца спіс часопісаў і зборнікаў, якія маюць пастаянныя бібліяграфічныя раздзелы, і такіх выданняў штогод налічваецца больш як 80 адзінак. У асноўным сваёй гэта навуковыя і навукова-практычныя часопісы.

Першыя бібліяграфічныя тэксты як з'ява зарадзіліся яшчэ ў старажытнасці. Спачатку яны датычылі надпісаў на камянях, гліне, дрэве, метале, косці, розе, звестак з берасцяных грамат, пергаменту і папірусу, друкаваных крыніц у далейшым. А сёння мы ўжо кажам пра бібліяграфіраванне электронных выданняў, ды і сама бібліяграфія паступова, але ўпэўнена пераходзіць у электроннае асяроддзе. За гэтыя стагоддзі бібліяграфія ніколі не губляла сваёй актуальнасці, таму што выконвала і выконвае ролю навігатара ў агромністым моры інфармацыі і ведаў. Пры гэтым не так важна — апублікаваная яна ў перыядычным выданні ці выдадзена асобнай кнігай.

**— Ці можна сцвярджаць, што публікацыя бібліяграфічных звестак служыць сродкам папулярызацыі літаратуры?**

— Канечне. Не толькі папулярызацыі, але і падтрымкі чытання, рэкламы кнігі і яшчэ «кніжнай памяці чалавецтва» — калі актыўнае жыццё кнігі згасае, бібліяграфія захоўвае памяць пра яе. А ёсць яшчэ і навукова-дапаможная бібліяграфія, якая садзейнічае навуковым даследаванням і практычнай дзейнасці.

**— У такім выпадку супрацоўніцтва штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» і Кніжнай палаты павінна прыносіць надзвычай вялікі плён.**

— І тут не магу адарвацца ад тэмы бібліяграфіі, таму што часткова менавіта яна стала тым звяном, дзякуючы якому нарадзіўся і жыве сумесны праект «ЛіМа» і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі — «Кніжны свет». Два з паловай гады мы знаёмілі чытачоў з навінкамі беларускага кнігавыдання самай разнастайнай тэматыкі — для дзяцей і дарослых, для забаўляльнага і «сур'ёзнага» чытання, для навучання і самаадукацыі. За гэты час больш як 20 тысяч бібліяграфічных запісаў пабачыла свет на старонках «ЛіМа». Адкрываючы праект, мы хацелі зразумець, хто ж знаходзіцца з іншага боку «Навінак кнігавыдання». Хто ён — наш чытач? Прафесіянал-бібліёграф, бібліятэкар, кнігагандляр, кнігалюб-аматар? На каго мы арыентуемся, складаючы бібліяграфію? Гэта быў эксперымент, «вывучэнне попыту і прапановы», як сказалі б маркетолагі. Правёўшы апытанне сярод чытачоў, сумесна з «ЛіМам» вырашылі ўсё ж абнавіць фармат бібліяграфічнай інфармацыі і з новага года прадстаўляць звесткі толькі пра тыя кніжныя навінкі, якія, на наш погляд, бліжэй чытацкай аўдыторыі: пра літаратурна-мастацкія выданні для дзяцей і дарослых, па гісторыі, краязнаўстве і беларусістыцы. А інфармацыю пра іншыя выданні нашы чытачы змогуць знайсці на сайце Кніжнай палаты ў раздзеле «Электронны каталог інфармацыйнай сістэмы дзяржаўнай бібліяграфічнай інфармацыі» ці падпісаўшыся на «Летапіс друку Беларусі».

**— Зразумела, што канчатковыя вынікі працы Кніжнай палаты і айчыннай сістэмы кнігавыдання ў цэлым за 2012 год яшчэ не падведзены. Але, напэўна, ужо можна разважаць пра некаторыя тэндэнцыі года?**

— Папярэднія дадзеныя сведчаць пра тэндэнцыю зніжэння тыражоў і аб'ёмаў прадукцыі. Па назвах выпуск кніг дастаткова стабільны. І на дадзеным этапе развіцця выдавецкай справы прычыны падзення тыражоў і аб'ёмаў зразумелыя і аб'ектыўныя. Папершае, гэта паступовая змена прыярытэтаў чытачоў на карысць электронных форм кнігі, наяўнасць электронных кніг у свабодным доступе, што робіць капіраванне больш выгадным, чым пакупка традыцыйнай кнігі. Усё гэта сусветныя тэндэнцыі, але нельга сказаць, што пераарыентацыя чытачоў на электронныя версіі — гэта кепска. І гэта не сведчыць пра тое, што друкаваная кніга памірае. Гэта сведчыць толькі пра тое, што наша краіна, як і ўвесь цывілізаваны свет, рухаецца ў бок інфармацыйнага грамадства. Гэты працэс суправаджаецца зменамі амаль ва ўсіх сферах, а не толькі ў кнігавыданні. На маю думку, аптымальны шлях развіцця кнігавыдання на сённяшні дзень — выкарыстоўваючы рэсурсы, што мы маем, садзейнічаць развіццю і папулярызацыі кнігі — і друкаванай, і электроннай.

# Літаратурны багаж спадара пасла

Сімвалічна, што на пытанні для «Кніжнага свету» Павел Латушка адказваў, трымаючы ў руках кнігу, аздобленую Юрыем Якавенкам, — «Песню пра зубра» Міколы Гусоўскага. (Гродзенскі мастак толькі што асабіста ўручыў яе паслу Беларусі ў Францыі.)

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Кастуся Дробава

**— Павел Паўлавіч, чым для вас адметны падарунак?**

— Для мяне гэты твор мае вельмі вялікае значэнне. Ён не толькі расказвае пра багацце культуры нашай краіны, глыбінныя крыніцы гісторыі кнігі Беларусі. Ёсць і асабісты момант: "Песню пра зубра" пераклаў з лацінскай на беларускую Язэп Семяжон, адзін з блізкіх маёй сям'і людзей.

**— З чаго пачалася ваша вандроўка ў Краіну Чытання?**

— Першыя кнігі нам чытала матуля. Гэта былі беларускія казкі, цудоўна ілюстраваныя. Вобразы іх герояў, створаныя беларускімі мастакамі, засталіся ў памяці на ўсё жыццё.

**— У якім узросце пачалі чытаць самастойна? Што з прачытанага тады асабліва запомнілася?**

— Не быў выключэннем: як і большасць дзяцей, навучыўся чытаць прыкладна ў шэсць гадоў. Памятаю кнігу «Как я был вундеркиндом» пра хлопчыка, які займаўся і матэматыкай, і англійскай мовай, і плаваннем, і яшчэ мноствам спраў — з раніцы да вечара. Яна аказала на мяне такое моцнае ўражанне! Вось так трэба вучыцца, вось так трэба працаваць, каб быць паспяховым у жыцці!



**— Што робіце, калі кнігам становіцца цесна на дамашніх палічках?**

— У мяне велізарная бібліятэка. Сапраўды, кнігам дома ўжо цеснавата. Думаю, як перадаць іх у дар Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі і Ждановіцкай сельскай бібліятэцы, у якой я запісаны і часта бываю. Вельмі хацеў бы, каб гэтымі выданнямі карысталіся, каб яны не былі ўласнасцю толькі аднаго чалавека. Мне падаюцца вельмі цікавымі еўрапейскія праекты, калі кнігі можна абмяняць і даць магчымасць пазнаёміцца з творам вялікай колькасці чытачоў. Вельмі важна, каб мы проста чыталі. Кніга — гэта крыніца ведаў, тое, што нас выхоўвае, скарбонка інфармацыі і крок у будучыню. Апошнім часам да звычайных кніг звяртаюся менш, але чытаць менш не стаў: карыстаюся новымі тэхналогіямі. Дарэчы, бяру электронную кнігу ў Парыж.

**— Любімыя аўтары, кнігі якіх час ад часу перачытваеце і возьмеце з сабою ў Францыю?**

— Зразумела, гэта Уладзімір Караткевіч, Максім Багдановіч, Янка Купала. «Дзікае паляванне караля Стаха», ілюстраванае таксама Юрыем Якавенкам, плануюдарыць замежным партнёрам. У багажы і выданне трох вершаў Максіма Багдановіча на дзесяці мовах свету, вершы Янкі Купалы — выданне на васьмі мовах, у тым ліку і на французскай. Маёй задачай з'яўляецца прапаганда Беларусі і беларускай культуры. Таму прыярытэтным будзе прадстаўленне беларускай літаратуры за мяжой.

*Клуб бібліяфілаў*

# Галоўны крытэрый

Павіншаваць з надыходзячым Новым годам і Калядамі сяброў сталічнага клуба бібліяфілаў гаспадыня «Кніжнага салона» Ала Зміёва вырашыла сапраўды зорнай сустрэчай. На выстаўку карцін Паўла Татарнікава і кніг, аздобленых мастаком, сабраліся яго сябры і калегі: Уладзімір Вішнеўскі, Канстанцін Хацяноўскі, Анатоль Бутэвіч, Юрый Хілько, Ігар Гардзіёнак, Уладзімір Сытчанка, Мікола Купава і многія, кім можа ганарыцца беларуская культура.



*Ілюстрацыі П. Татарнікава да кнігі Д. Мэцьюза «Артур — кароль каралёў». 2009 г. Фота з сайта www.tatarnikov.com.*

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

Для Паўла мінулы год быў плённы. Не так даўно ў Расіі выйшла кніга беларускіх казак, якая стала галоўным аб'ектам аўтограф-сесіі мастака. Пра запатрабаванасць яго таленту сведчылі выданні з ілюстрацыямі Татарнікава, што пабачылі свет у іншых краінах: Англіі, Кітаі. Ён адзін з тых творцаў, хто можа сам выбіраць са шматлікіх прапаноў толькі тое, што яму насамрэч цікава (чарга да беларускага кніжнага графіка распісана на некалькі гадоў). І шчаслівы, што жыве на радзіме. Бо яго галоўнае захапленне — гісторыя нашага краю.

Пачалося мерапрыемства з правакацыйнага пытання, ці марыць мастак стварыць шэдэўр. На што Павел адказаў, што ніколі не клапаціўся пра гэта. І адзіным крытэрыем ацэнкі якасці работы для яго з'яўляецца рашэнне: ці падабалася б гэта яму самому ва ўзросце 9 — 12 гадоў.

Падчас сустрэчы Павел прадэманстраваў прысутным работы, над якімі працуе сёння. На яго малюнках ажываюць выявы старажытных беларускіх гарадоў, візуалізуюцца збудаванні, пра якія захаваліся толькі згадкі. Гістарычная рэканструкцыя патрабуе глыбокіх і дакладных ведаў. Ён ахвотна кансультуецца са спецыялістамі. Дарэчы, малюнкі Татарнікава часам робяцца нагодай для навуковых дыскусій.

Шмат добрых слоў прагучала на вечарыне ў адрас выдаўца, які стаў «хросным бацькам» для маладых. Дырэктар выдавецтва «Кавалер» Канстанцін Хацяноўскі не толькі паспрыяў раскрыццю Паўла Татарнікава, Юрася Алісевіча, Юрыя Хілько, Ігара Гардзіёнка ў якасці беларускіх ілюстратараў, але і за ўласныя сродкі накіраваў іх на прэстыжныя міжнародныя кніжныя конкурсы, дзе сустракаюцца выдаўцы і мастакі ўсяго свету. «Нашы мастакі не прападуць, — упэўнены Павел Татарнікаў, — падтрымка дзяржавы неабходна менавіта беларускай кнізе. І ў першую чаргу — дзіцячай. Вельмі ўдалым прыкладам дзяржаўнай зацікаўленасці стала серыя «Сем цудаў Беларусі», якую ахвотна раскупілі чытачы».

*Scripta manent*

# Інтэлектуалы з Куцейны

Да аўтара манаграфіі «Кнігі і кнігазборы куцеінскага Богаяўленскага манастыра ў сярэдзіне XVII стагоддзя» (пабачыла свет у выдавецтве «Тэхналогія») Юрася Лаўрыка мяне прывяла не столькі захопленасць гісторыяй кнігі ўвогуле, колькі зацікаўленасць больш канкрэтнымі абставінамі, а менавіта лёсамі тых, чыімі рукамі ствараліся, да прыкладу, «Баркалабаўскі ірмалой», «Гісторыя пра Варлаама і Ясафа», «Брашна духоўнае» і г. д.

**Святлана ДЗЯНІСАВА**

**— Ці вядома нешта пра лёс тых манахаў, якія не паехалі на Валдай, а, перачакаўшы вайну ў Бізюкоўскім манастыры, вярнуліся ў Куцейну?**

— Пра іх вядома менш за ўсё, таму што дакументаў не захавалася: архіў манастыра знішчыла вайна. Пра далейшае развіццё падзей мы можам меркаваць толькі па некаторых намёках. Напрыклад, у Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь захоўваецца кніга з пазнакай, што яе купіў у іераманаха Марцім'яна ў Бізюкоўскім манастыры Генадзь Гарэлка. Таму ў нас ёсць падстава лічыць, што кніга належала куцеінскаму іераманаху Марцім'яну, а потым — Генадзю Гарэлку, які з часам зрабіўся куцеінскім ігуменам. Ён належаў да той часткі брацііі, што не захацела перасяляцца ў Маскоўшчыну, а засталася на Беларусі і пасля, па заключэнні міру ў 1668 годзе, змагла вярнуцца. Мы ведаем таксама, што літургічная дзейнасць у Куцейне аднавілася не адразу, а толькі ў 1670-я, калі з Валдая была вернута нязначная частка багаслужэбных прадметаў. Ведаем яшчэ, што для пакрыцця страт цар назначыў куцеінцам «жалаванне». Праўда, з больш позніх дакументаў высвятляецца, што яно з часам перастала выплачвацца, а ці аднавіліся выплаты пазней, невядома. Можна, канечне, назіраць, што жыццё ішло, — праз захаваныя выпіскі з актавых кніг. Але цяжка спадзявацца на працяг актыўнай культурніцкай дзейнасці, калі найбольш адукаваныя прадстаўнікі манастырскай брацыі былі вывезены ў Маскоўшчыну.

**— А як маглі б развівацца падзеі, калі б куцеінцы ўсё ж не паехалі на Валдай?**

— Гаворачы коратка, у нас засталася б інтэлектуальная эліта. Канечне, нельга сцвярджаць, што ўся куцеінская брацыя падпадала пад гэтае вызначэнне — сярод манахаў траплялiся розныя. Як пісаў Касьян Саковіч, былі і такія, што ледзьве вымаўлялі малітвы. Але пры гэтым меў месца і такі выпадак: Магілёўскае брацтва прасіла паставіць прапаведнікам у сябе аднаго з прадстаўнікоў брацыі Куцейны. Натуральна, што сярод дзвюх соцень чалавек хапала інтэлектуалаў, якія маглі займацца развіццём беларускай культуры, весці літаратурную працу і нават, як бачым, арганізаваць выдавецкую дзейнасць. Галоўная страта ў тым, што інтэлектуальная эліта на Беларусь не вярнулася, як не вярнуліся рэдкія рукапісы і старадрукі. Дарэчы, Нікан неаднойчы накіроўваў дадатковыя граматы, каб астатняя частка брацыі таксама пераехала ў Іверскі манастыр. Ён імкнуўся прыбраць да сябе ўсіх. Такім чынам, для беларускай культуры гэта была адназначная страта. Па-першае, духоўная: бібліятэка была вывезена, друкарскі варштат таксама. Па-другое, можна гаварыць і пра страту тых матэрыяльных каштоўнасцей, якія адначасова з'яўляюцца каштоўнасцямі мастацкімі. Можа быць, на Радзіме, нават у такіх неспрыяльных умовах, нейкія набыткі атрымалася б захаваць. Мы ж бачым, як у Іверскім манастыры нашы манахі пастаянна звяртаюцца да патрыярха, просячы дазволу надрукаваць тое ці іншае, чаго на Беларусі яны рабіць не мусілі — друкавалі ўсё, што самі лічылі патрэбным. А там патрыярх ім пастаянна забараняе: маўляў, «те книги неисправные».

**— Складваецца ўражанне, што патрыярх Нікан, мякка кажучы, не зычыў культурнага развіцця Беларусі.**

— Цяжка сказаць, якой мэты ён насамрэч імкнуўся дасягнуць перасяленнем куцеінцаў. Магчыма, хацеў стварыць вялікі выдавецкі цэнтр (але гэта пытанне патрабуе адмысловых даследаванняў) або, паколькі імкнуўся да адзінаўладдзя ў праваслаўнай царкве, хацеў папросту прыдушыць усе крыніцы паступлення кніг, якія не прайшлі ягоную цэнзуру. Цалкам магчыма, што абодва варыянты слушныя. Хаця, верагодна, нейкая прыхаваная барацьба паміж Масквой і Кіевам усё ж адбывалася. Калі ў 1639 годзе Спірыдон Собаль паехаў у Маскву, каб адкрываць там школы і прадаваць свае кнігі, то маскоўскія ўлады спыталіся ў Васіля Бурцова, «книжного и печатного дел мастера», з якім наш друкар меў справу раней, ці варта яго да сябе пускаць. І Бурцоў не проста адмовіўся ад супрацоўніцтва — ён абвінаваціў Собаля ў прыхільнасці да уніі нібыта на падставе службы ў Пятра Магілы: «А то про он слышел, что Пётр Могила, кому тот Спиридон Соболь служил, благочестивые православные крестьянские веры отпал и приступил к римской вере, и ныне де он униат». Аргументам, відаць, стаў тытульны аркуш магілёўскага «Псалтыра» 1637 года, на якім Собаль называе сябе слугой мітрапаліта, канстатуючы тым самым, на чые грошы выдадзена кніга. То бок, Магіла, праваслаўны мітрапаліт, успрымаўся ў Маскве як уніят. Але ж хіба не натуральна, што, жывучы ў каталіцкай дзяржаве, ён мусіў быць больш лаяльным да каталіцызму, чым маскоўскія патрыярхі? Тым не менш стаўленне да яго было такое.

**— Старонкі пра лёс былых куцеінцаў у Іверскім манастыры кранаюць найбольш адлюстраваннем узроўню маральнасці тых манахаў, з якімі ім давялося сутыкнуцца.**

— Ведаеце, у манаства ішлі розныя людзі. Былі сярод іх і шчырыя прыхільнікі веры, і шукальнікі даброт, і людзі, падпарадкаваныя традыцыям. Больш за тое, зыходзячы з заходнееўрапейскіх веянняў, біскупства мог атрымаць і той, хто не прыняў свячання, нават настаяцелі манастыроў нярэдка заставаліся людзьмі свецкімі. Натуральна, што гэта была пагоня за грашыма і добрым месцам у чыстым выглядзе. Гэта тэндэнцыя таго часу. Адзін з найбольш аўтарытэтных гісторыкаў праваслаўнай царквы нашага рэгіёна, Яўген Галубінскі, таксама вельмі шчыра піша, што людзі ішлі ў царкву з абсалютна рознымі мэтамі. Але спецыяльна я гэтай тэмай не займаўся, таму ад аргументаваных высноў ухілюся.

**— Сімяона Полацкага вы называеце «яшчэ адным беларусам, які працаваў на культурнае развіццё Маскоўшчыны». У нас прынята ганарыцца тым, што ён быў выхавальнікам дзяцей цара. Але… ці ёсць тут чым ганарыцца?**

— Ёсць. У тым сэнсе, што адукацыя на Беларусі была да такой ступені высокай, што звычайны манах мог выступаць выхавальнікам царскіх дзяцей. Сімяон Полацкі быў таленавіты чалавек, але ён з'яўляўся прадстаўніком масквафільскіх настрояў. І калі цар Аляксей Міхайлавіч прыехаў у Полацк, Сімяон напісаў цэлую оду ў яго гонар. Але ў творчасці гэтага чалавека даследчыкі знаходзяць шмат рыс менавіта беларускай паэзіі. Мы можам тут бачыць рознагалоссе ў культурным і палітычным сэнсах, але, з іншага боку, я зноў падкрэслю: на ўсё, што адбывалася, ўплывалі і чалавечыя памкненні ці амбіцыі. Размова ідзе пра асабісты выбар кожнага. Пра той самы, па сутнасці, выбар, перад якім стаялі і куцеінцы: адны самі прасіліся ў які-небудзь маскоўскі манастыр, другія выехалі пад прымусам, а трэція знайшлі магчымасць не паехаць увогуле.

> *Вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь Юрась Лаўрык: «З аднаго боку, гэтыя манускрыпты і старадрукі самі з'яўляюцца помнікамі кніжнага жыцця і літаратурна-выдавецкай дзейнасці манахаў. Разам з тым такія кнігі нярэдка маюць надпісы, якія раскрываюць тыя ці іншыя моманты, звязаныя з функцыянаваннем гэтага асяродка і яго гісторыяй».*

### Даведка «ЛіМа»

*Богаяўленскі манастыр у Куцейне пад Оршай датай свайго заснавання мае 19-ы дзень месяца верасня 1623 года. Згодна з наступным паводле храналогіі фундушам прыбытак ад манастырскіх зямель належала скіроўваць на асветніцкія мэты. Але стварэнне пры манастыры школы ўяўлялася юрыдычна немагчымым: езуіты атрымалі прывілей, які касаваў верагоднасць стварэння іншых навучальных устаноў у Оршы і ваколіцах. Гэта схіліла ігумена Іаіля Труцэвіча да думкі заснаваць у манастыры друкарню. На яго запрашэнне з Кіева ў Куцейну прыязджае друкар Спірыдон Собаль.*

*У 1631 годзе выходзіць першая кніга, і далей справы ідуць так добра, што нават ад'езд Собаля праз чатыры гады не прыпыняе друкарскай дзейнасці. Гэта зробіць у 1654-м вайна з Маскоўшчынай. Тады манахі будуць вымушаны прасіць у цара Аляксея Міхайлавіча дазволу на перасяленне ў мясцовасці, аддаленыя ад зоны ваенных дзеянняў. Спачатку яны знойдуць прытулак у Бізюкоўскім манастыры на Смаленшчыне; пазней большая частка брацыі разам з бібліятэкай, друкарскім варштатам і каштоўнай маёмасцю з ініцыятывы патрыярха Нікана будзе перасеrange ў Іверскі манастыр на Валдаі і толькі невялікая рэшта вернецца пасля вайны са Смаленшчыны ў Куцейну. А яшчэ пазней будзе загад патрыярха, які ў рэшце рэшт пазбавіць былых куцеінцаў і бібліятэкі, і варштата і ўвогуле скасуе ўсялякую магчымасць друкарскай дзейнасці.*



**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

*Слова краязнаўцы*



**Анатоль ШНЭЙДАР, даследчык гісторыі роднай зямлі з Талачына, стваральнік і нязменны кіраўнік рэгіянальнай кінастудыі “Летапіс” (на працягу амаль 50 гадоў), аўтар больш як 300 публікацый па краязнаўстве, гісторыі, мастацтве і літаратуры, распавядае пра тое, што стала штуршком для яго доўгага і паспяховага падарожжа ў краіну краязнаўства:**

— Упершыню сутыкнуўся з краязнаўствам паўстагоддзя таму, прыкладна ў трыццацігадовым узросце, прытым выпадкова. У рамане французскага класіка прачытаў: “Князь Друцкі-Саколінскі”. Мне стала вельмі цікава. Справа ў тым, што вёска Саколіна размешчана ўсяго за чатыры кіламетры ад маёй роднай вёскі Парэчча Талачынскага раёна. А я ж паняцця не маю ні пра якога князя Друцкага-Саколінскага! Наогул пра князёў Друцкіх нічога не чуў. Хаця ў Польшчы і Францыі пра іх ведаюць. Крыўдна. Пачаў шукаць любую інфармацыю пра Друцк і навакольныя мясціны.

Праўда, час для такіх даследаванняў быў няспрыяльны. Мы заканчвалі школы, розныя навучальныя ўстановы, але нічога не ведалі пра сваё сапраўднае мінулае. А што раней адбывалася ў вёсцы Друцк? Краязнаўства ў тыя часы не існавала. Многія звесткі пра беларускую гісторыю трымаліся ў сакрэце. Пра Друцкае княства не чулі нават тыя, хто жыў тут шмат гадоў, не гаворачы ўжо пра ўсю Беларусь. Мой жа хатні архіў увесь час папаўняўся. І чым далей, тым больш. Таму вырашыў прапанаваць свае матэрыялы талачынскай раённай газеце, дзе ў 20 з лішкам нумарах пад рубрыкай “Талачыншчына: мінулае і сучаснае” яны друкаваліся пачынаючы з 70-х гадоў мінулага стагоддзя. Потым напісаў некалькі краязнаўчых твораў, прысвечаных роднаму краю: “Талачын: Гісторыка-эканамічны нарыс” (1983), “Мая Талачыншчына” (2005 і 2006). Таксама актыўна ўдзельнічаў у падрыхтоўцы кніг “Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Талачынскага раёна” (1988) і “Друцк і Барысаў” (2002). Плюс некалькі дзясяткаў дакументальных кінастужак пра жыццё талачынцаў. І па сённяшні дзень “варуся” ў гэтай тэме.

Дарэчы, нам ёсць чаму павучыцца ў французаў. Кожны жыхар Пятай рэспублікі ведае свой радавод да пятага калена і лічыць гэта святым абавязкам, а месца пражывання продкаў — сваёй малой радзімай.

# І загучыць ярчэй арган

Ужо ў гэтым месяцы пачнецца мадэрнізацыя аргана ў канцэртнай зале Сафійскага сабора Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка. З моманту ўсталявання інструмента ў 1985 годзе ён упершыню будзе сур'ёзна ўдасканалены. Будуць заменены некаторыя дэталі, з'явіцца новы пульт кіравання, што зробіць арган больш зручным для выканаўцаў, а гучанне інструмента — больш яркім. У яго мадэрнізацыі возьмуць удзел расійскія і ўкраінскія спецыялісты сумесна з нямецкай арганабудаўнічай фірмай «Хеслер». Адначасова яны правядуць і прафілактычныя работы, якія апошні раз праходзілі ў 1998-м. Фінансаванне праекта ажыццяўляе Міністэрства культуры Беларусі, якое вылучыла на гэтыя мэты 1,5 млрд. рублёў. Полацкі арган вядомы далёка за межамі Беларусі. Ужо 17 гадоў у Сафійскім саборы з поспехам праходзяць міжнародныя фестывалі арганнай музыкі «Званы Сафіі», якія збіраюць вядомых выканаўцаў з розных краін свету.

**Бажэна СТРОК**

*Музейны ўнікат*

# Брама ў рай

**Царскія брамы, сплеценыя з саломкі, — унікальныя помнікі даўніны. Створаныя народнымі майстрамі напрыканцы XVIII — на пачатку XIX стагоддзя, яны цудам дайшлі да нашых дзён. Праўда, захавалася толькі тры такія вырабы.**

**Раіса МАРЧУК**

Адна брама знаходзіцца ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі (паступіла з Барысаглебскай царквы, што ў Гродне), а дзве захоўваюцца ў Музеі беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах — філіяле Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь.

— Царская брама, выпрабленая ў канцы XVIII стагоддзя ў вёсцы Лемяшэвічы Пінскага раёна, выяўлена ў 1956 годзе ў царкве Раства Прасвятой Багародзіцы падчас экспедыцыі супрацоўнікаў Дзяржаўнага мастацкага музея БССР, — распавяла малодшы навуковы супрацоўнік Музея беларускага народнага мастацтва Валянціна Грэчка. — Мабыць, людзям захацелася нейкім чынам упрыгожыць свой храм, вось і з'явіўся такі цуд народнага мастацтва. Знойдзеныя вароты адрэстаўравала народны майстар Беларусі Ларыса Лось. Для таго, каб іх аднавіць, спатрэбіўся нават матэматычны разлік. Усе ўзоры царскіх брам паўтараюцца: вітая пляцёнка, рамбічныя і квадратныя ўстаўкі. У сярэдзіну кожнага квадрата ўплецены кавалачкі тканіны, якімі замяняліся каштоўныя камяні. Гэтая царская брама ўнікальная тым, што на ёй няма выяў чатырох Евангелістаў і яўлення Дабравешчання.





На царскай браме (канца XVIII — пачатку XIX ст.) з вёскі Вавулічы Драгічынскага раёна акрамя элементаў саломапляцення размешчаны жывапісныя клеймы з вобразамі чатырох Евангелістаў з сімваламі: Марк — са львом, Мацвей — з анёлам, Лука — з цяльцом, Іаан — з арлом. Уверсе адлюстравана яўленне Дабравешчання. Паступілі брамы ў музей у 1974 годзе з Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору тагачаснай Акадэміі навук БССР. У 1982 годзе вавуліцкую браму рэстаўрыравала таксама Ларыса Мікалаеўна.

— У сусветнай гісторыі народнага мастацтва такіх прыкладаў няма, — зазначыла Валянціна Грэчка. — Гэтыя ўнікальныя помнікі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва сведчаць пра старажытнасць традыцый саломапляцення і высокі ўзровень яго развіцця ў Беларусі.

*Радзіннае*

# Дзе каза бывае, там шчасце вітае

**Сярод старажытных народных свят, бадай, самае значнае — Каляды, час, калі «сонца паварочвае на лета, а зіма — на мароз». Розныя магічныя дзеянні, абрады, тэатралізаваныя сцэнкі, вясёлыя забавы, песні і жарты былі прасякнуты думкай пра будучы ўраджай, стварэнне сям'і, надыход цяпла.**

**Валянціна МАЛЮШЫНА**

Да Каляд рыхтаваліся загадзя. Моладзь збіралася на спеўкі, а гаспадыні прыбіралі ў хаце. Да бэлькі над сталом падвешвалі саламяных «павукоў». Верылі, што яны адганяюць злых духаў, а маленькія саламяныя павучкі над калыскамі аберагаюць дзяцей ад сурокаў. Павук на выгляд быў даволі аб'ёмны, але такі лёгкі, што нават ад самага нязначнага подыху паветра пачынаў круціцца, завараджваючы разнастайнымі спалучэннямі геаметрычных форм. Знаходзячыся ў няспынным руху, ён пераліваўся залацістым колерам саломкі, і гэты незвычайны прадмет у будзённай прастаце вясковага інтэр'ера ствараў асаблівы настрой святочнасці.

Кажуць, што ў самой канструкцыі павука адлюстраваны цэлы сусвет. У адрозненне ад традыцыйных вясковых, часам зробленых з выкарыстаннем каляровай паперы, як, напрыклад, у вёсцы Пацэвічы Мастоўскага раёна, павукі народных майстроў Ларысы Главацкай і Таццяны Агафоненкі ўражваюць арыгінальнасцю дэкаратыўных элементаў.

У якасці аздаблення хаты выкарыстоўваліся таксама ручнікі, стракатыя посцілкі. Асаблівую ўрачыстасць надавалі ручнікі-набожнікі. Ім было адведзена найбольш пачэснае месца — у чырвоным куце, дзе знаходзіліся абразы. Многія даследчыкі мяркуюць, што ручнік увасабляў душы продкаў і разам з тым з'яўляўся асаблівым знакам, сімвалам сям'і ці роду. «Набожнік» як культавы прадмет меў сімвалічны арнамент. З цягам часу старажытная сімволіка набожніка забылася, і ён функцыянаваў ужо толькі як дэкаратыўны элемент бажніцы. Звычайна канцы яго былі багата арнаментаваны вышыўкай альбо тканым узорам і карункамі. Захаваныя ў музеях помнікі сведчаць, што ручнікі, прызначаныя для чырвонага кута, — самыя складаныя па тэхніцы выканання і найпрыгажэйшыя.

Покуць — кампазіцыйны цэнтр хаты. Там захоўваўся апошні сноп жыта, перавязаны яркім поясам. Пасля Каляд гэты сноп малацілі і зерне дадавалі да насення, каб быў добрым будучы ўраджай. Напярэдадні свята прыносілі ў рэшаце сена і ставілі на яго куццю — гаршчок з пшанічнай ці ячневай кашай, якую елі дзе з мёдам, дзе з макам. Церлі мак драўляным таўкачыкам у глінянай місцы-«макітры», дадавалі цукар, а потым мачалі туды аладкі.

Выцягвалі з куфра і паясы. Выкананыя ў розных тэхніках, яны цешылі вока мноствам разнастайных узораў і насычанымі колерамі. На Каляды паясы былі патрэбны яшчэ і для правядзення розных абрадаў. Поясам папярна звязвалі аднародныя прадметы, каб жывёла ў гаспадарцы «паравалася». Ля ўвахода ў чысты пакой вешалі 12 паясоў для варажбы на суджанага.



Маска Казы Веры Салдатавай.

Усціланне саломай сталоў і падлогі ў хатах, выпечка пірагоў, прыгатаванне куцці і шматлікія культавыя дзеянні раней уваходзілі ў земляробчую магію, якая павінна была забяспечыць прыбытак у хаце, ураджай на полі, прыплод жывёлы і шчаслівае сямейнае жыццё.

Але ж не ўсё падпарадкавана толькі практычным мэтам. Шмат чаго адбывалася і забаўляльнага, як, напрыклад, у калядных хаджэннях. Вясковая моладзь наладжвала калядаванне, падчас якога спявалі песні, віншавалі гаспадароў, жадалі ім дабрабыту і заможнасці, услаўлялі іх працавітасць і шчодрасць. Паводле старадаўняга звычаю хадзілі ад хаты да хаты пад звон шаргуноў, які папярэджваў пра набліжэнне калядцай дружыны — «звездароў». Асаблівае значэнне мелі скокі «Казы», якая сімвалізавала пладавітасць і дабрабыт. Казалі: «Дзе каза паходзіць, там жыта зародзіць, дзе каза топ-топ, там жыта сем коп. Дзе каза нагой, там жыта капой. Дзе каза хвастом, там жыта кустом, а дзе каза рогам, там жыта стогам. Дзе каза бывае, там шчасце вітае, а дзе не бывае, там яно мінае».

Задаволены гаспадар ставіў пляшку, а ўдзячная гаспадыня клала калядоўшчыкам у мех каўбасу і прысмакі. Любімыя калядныя вобразы знаходзяць новае жыццё ў новых творах сучасных майстроў: Еўдакіі Лось, Веры Салдатавай, Людмілы Уласенкі і іх вучняў.

Традыцыі і сучаснасць

# Агляд талентаў. Народных

Завітаць у казку, дзе галоўныя персанажы — саламяныя коні і птушкі, загадкавыя лялькі ў традыцыйных беларускіх строях, цудоўная кераміка і іншыя адмысловыя вырабы, запрасіў Беларускі саюз майстроў народнай творчасці. Юбілейная, дванаццатая па ліку, рэспубліканская выстаўка «Калядныя ўзоры», прысвечаная 20-годдзю гэтага грамадскага аб'яднання, з поспехам праходзіць у выставачнай зале Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці.

**Раіса МАРЧУК,**
**фота Кастуся Дробава**

Калядная выстаўка — своеасаблівы агляд апошніх дасягненняў. Нягледзячы на розныя цяжкасці, якія ўсё ж такі здараліся, члены саюза з першага года свайго існавання на фоне рыначных адносін, базарнага кітчу, безгустоўшчыны, антымастацтва і аматарскага рукадзелля стараюцца прытрымлівацца лініі традыцыйных рамёстваў, хай сабе і крыху зменены згодна з сучаснымі патрабаваннямі. Аснову сёлетняй экспазіцыі склалі творы майстроў, прынятых у саюз за апошнія два гады, а таксама творчыя работы юбіляраў. У выніку больш як сотня ўдзельнікаў прадставілі на суд зацікаўленых гледачоў свае унікальныя і непаўторныя работы.

— На выстаўцы можна пазнаёміцца практычна з усімі відамі традыцыйных беларускіх рамёстваў, — распавёў старшыня Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Яўген Сахута. — І тыя, якія яшчэ бытуюць дзе-ніздзе ў сваім натуральным асяроддзі, і тыя, якія адроджаны з «нуля», вернуты з небыцця намаганнямі майстроў і пры падтрымцы саюза, і тыя, якія дэманструюць развіццё колішніх традыцый ужо на сучасным этапе. Умовы нашага жыцця мяняюцца, таму далёка не ўсе віды, што цяпер бытуюць ці адроджаны, уяўляюць сабою менавіта тыя рамёствы, якія існавалі раней. Адным словам, калядная выстаўка дэманструе зрэз сучаснага народнага мастацтва Беларусі. Яна таксама вырашае асноўную задачу саюза: падтрымаць, адрадзіць і развіць традыцыйныя рамёствы.


Анёл Валянціны Раманенкі.

Больш як 500 чалавек аб'ядноўвае сёння Беларускі саюз майстроў народнай творчасці. Той, хто пазнаёміўся з работамі членаў саюза, упэўніўся: кожны майстар адметны сваім почыркам і тым, што развівае, прадаўжае традыцыі нейкага аднаго віду рамяства. Напрыклад, Раіса Раманеня з Салігорска заснавала ў сваім горадзе мастацкую школу саломапляцення і аплікацыі саломкай. Цяжка адвесці вочы ад яе шыкоўных работ: дажыначных вяночкаў, абярэгаў, розных фігурак. Прадстаўніча заявіў пра сябе калектыў лозапляцельшчыкаў з Маладзечна пад кіраўніцтвам Генадзя Унукава. Тутэйшыя майстры арганізавалі цэлую студыю і плённа развіваюць традыцыі лозапляцення. Летась яны сталі лаўрэатамі прэміі Рэспубліканскага прафсаюза работнікаў культуры ў галіне народнай творчасці.

— Выдатная саломапляцельшчыца з Магілёва Наталля Дамінікава, лаўрэат і дыпламант шматлікіх конкурсаў і фестываляў, шчыра апякуецца майстрамі вобласці, — зазначыў Яўген Сахута. — Яна не толькі згуртавала вакол сябе таленавітых людзей, але і займаецца іх адукацыяй. Магілёўчане прывезлі на выстаўку цэлы аўтобус вырабаў! Алег Капуста з Івянца плённа развівае традыцыі амаль забытай мясцовай керамікі. Дзякуючы яму і яго паплечнікам гэтае рамяство ўжо ў наш час адрадзілася і ўяўляе сабою новы ўзровень ганчарства. Нельга не распавесці пра таленавітую ткачыху Ніну Казак з Ганцавіч. Усе «калядныя» ручнікі — плён яе майстэрства. Традыцыйныя класічныя вырабы з ромбагеаметрычным чырвоным арнаментам на белым фоне — выдатны ўзор сучаснай мастацкай творчасці, прытым з плённым прадаўжэннем традыцый. А вось Вольга Сыцікава з Магілёва прадставіла калекцыю лялек. Дарэчы, яна стварыла цэлы напрамак лялечнай вытворчасці на Магілёўскай фабрыцы мастацкіх вырабаў. Дзякуючы почырку Вольгі Міхайлаўны, якая абапіраецца на традыцыі народнага касцюма, гэтыя вырабы лёгка пазнаюцца ва ўсіх крамах, дзе прадаюцца сувеніры. Наталля Бярнацкая з Крычава стварае дзіўныя выцінанкі. Яе папяровыя птушачкі выдатна аздобілі нашу залу. Наталля — выдатны метадыст, з радасцю перадае сваё майстэрства іншым.

Уражваюць лёгкія вытанчаныя галаўныя ўборы — вяночкі і капялюшыкі — выдатнага майстра па саломапляценні Тацяны Марціновіч з Докшыц, якая працуе ў Доме рамёстваў і актыўна ўдзельнічае ва ўсіх выстаўках і конкурсах, дзе заслужана атрымлівае шматлікія прызы і дыпломы. Прывабліваюць гледачоў фігурныя работы з саломкі мінчанкі Вольгі Аскіркі. Толькі майстар ведае, колькі часу затрачана на выраб той ці іншай саламянай савы. Бо спачатку трэба паасобку сплесці кожную пярынку. а потым сабраць дэталі ў адзін выраб.

— На выстаўцы «Калядныя ўзоры» больш прадстаўлена Мінская вобласць, — працягвае Яўген Міхайлавіч. — Гэта і зразумела — лягчэй дабрацца. Няблага паказалі сябе майстры Віцебшчыны. Вельмі добра заявілі пра сябе творцы Магілёўскай вобласці. Яшчэ некалькі дзясяткаў гадоў у параўнанні з Міншчынай ці Віцебшчынай тутэйшыя народныя рамёствы знаходзіліся ў «спячцы». Але ў гэтую сферу прыйшлі зацікаўленыя людзі, якія ведаюць, што такое традыцыйная народная культура, што такое рамёствы і промыслы і як іх трэба захоўваць і падтрымліваць. Тут змаглі падабраць тыя рэшткі, якія яшчэ заставаліся, развіць, што было ўжо амаль забыта. І паспяхова выйшлі ў лідары. А вось Гомельшчына, багатая на народную творчасць, асабліва на ткачых і вышывальшчыц, не заўважана на нашай выстаўцы. Справа ў тым, што работа з майстрамі ў рэгіёне не надта добра наладжана. Там, відаць па ўсім, не спяшаюцца па-сапраўднаму ацаніць скарбы, якія маюць.


Яўген Сахута.


Калядная выцінанка Валянціны Слюнчанкі.

Творчы свет

# Эксклюзіўны ордэн для майстра Беларусі

Персанальная выстаўка работ народнага майстра Беларусі Мікалая Тарасюка адкрылася ў музеі-сядзібе «Пружанскі палацык». Прыемнай нечаканасцю для прысутных, і ў першую чаргу для самога віноўніка ўрачыстасці, стала ўручэнне яму ордэна «За вернасць Бацькаўшчыне».

**Людміла БУНЕЕВА**

Вы не знойдзеце такога ордэна сярод узнагарод сучаснай Беларусі. Бронзавая васьміканцовая зорка з выявай анёла ў цэнтры — даніна павагі самабытнаму майстру з боку прыхільнікаў яго творчасці. Усё жыццё гэтага чалавека звязана з адным месцам — хутарам каля вёскі Стойлы, што на ўскрайку Белавежскай пушчы. Мікалай Васільевіч перажыў усіх сваіх аднавяскоўцаў, а гісторыю апусцелых Стойлаў увасобіў у мініяцюрных рознакаляровых фігурках з дрэва. Для іх ён пабудаваў на ўласнай сядзібе музейчык, якому даў назву «Успаміны Бацькаўшчыны».

У маі мінулага года Мікалай Тарасюк адсвяткаваў 80-гадовы юбілей. Яго сябры вырашылі зрабіць нестандартны падарунак. За выкананне незвычайнага заказу ўзяўся беларускі ювелір Мікалай Кузьміч. Для стварэння вобраза ён выкарыстаў характэрны для Мікалая Тарасюка інсітны стыль: васьміканцовая зорка нагадвае калядную, а анёл, які нясе ў руках хатку дзеда Тарасюка і музейчык, нібыта сышоў з дзіцячага малюнка.

Спіс фундатараў узнагароды ўключае ў сябе як прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі Брэстчыны, так і этнографаў з Падляшша (Польшча) Дарафея Фіёніка і Томаша Суліму. Палічылі за гонар удзельнічаць у рэалізацыі ідэі мастацтвазнаўца з Мінска Вольга Лабачэўская (аўтар кнігі «Сялянская энцыклапедыя ў творах Мікалая Тарасюка») і старшыня рэспубліканскага аб'яднання «Студэнцкае этнаграфічнае таварыства» Аляксей Глушко. А рухавіком ініцыятывы сталі загадчыца аддзела традыцыйнай культуры Брэсцкага абласнога грамадска-культурнага цэнтра Ларыса Быцко і яе муж Аляксандр.


Ордэн для Мікалая Тарасюка.

Мікалай Васільевіч прызнаўся, што хваляваўся не менш, чым дзесяць гадоў таму, падчас атрымання спецыяльнай прэзідэнцкай прэміі «За духоўнае адраджэнне».

— Цяпер ужо і паміраць можна, — расчуліўся майстар. — Але я буду жыць і рабіць свайго «драўлянага мужычка» дзеля славы Беларусі.

Да ведама

# Скандалы, інтрыгі, мемуары

У Гомельскім палацава-паркавым комплексе адкрылася выстаўка «Мінуўшчыны прасочваючы нітку...». Мемуары канца XVIII — пачатку XX стагоддзя з бібліятэкі князёў Паскевічаў прадставіў аддзел рэдкай кнігі Гомельскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна.

**Раіса МАРЧУК**

Мы часта адзначаем майстэрства вялікіх пісьменнікаў, якія здолелі так захапіць нас прыгодамі сваіх герояў, што можна забыцца пра рэальнасць. Нярэдка правобразамі бясстрашных герояў, чароўных прыгажунь, вераломных злодзеяў былі асобы, якія існавалі ў рэальнасці, насілі высокія тытулы, валодалі велізарнымі багаццямі і нават належалі да каралеўскіх дынастый. А ў іх жыцці было нямала падзей настолькі пікантных і займальных, што на іх фоне пацьмянеў бы любы раман. Апісанне захапляльных выпадкаў можна сустрэць у мемуарных творах з калекцыі князёў Паскевічаў.

Мемуары, напісаныя па гарачых слядах сведкамі падзей, прачыняюць заслону таямніцы над палацавымі сакрэтамі і інтрыгамі, дазваляюць чытачу на імгненне стаць віконтам Уолшам, баронам Асманам, графіняй дэ Буань. Хочаце даведацца больш пра скандальныя і анекдатычныя моманты з жыцця Карла X ці падрабязнасці асабістага жыцця Аляксандра II? Тады на гомельскай выстаўцы вы сустрэнецеся з гісторыяй, якую не ведалі раней.

# Беласнежка і Вялікія гномы



Новы 2013 год павінен стаць для Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача вызначальным: капітальны рамонт, які цягнецца некалькі гадоў, блізкі да завяршэння, і калектыву галоўнага дзіцячага тэатра краіны абяцаюць хуткае вяртанне ў родны будынак на вуліцы Энгельса. А пакуль гледачы і трупа нецярпліва чакаюць перамен, жыццё ідзе сваім парадкам. Нягледзячы на складаныя ўмовы існавання на чужой пляцоўцы, тэатр выпускае новыя прэм'еры і стараецца па-ранейшаму здзіўляць сваіх прыхільнікаў. Сярод адметных ТЮГаўскіх пастановак гэтага сезона — «Беласнежка і сем гномаў» па матывах казкі Братоў Грым.

**Вольга ДОЎГАЯ,**
**фота прадастаўлена Беларускім рэспубліканскім тэатрам юнага гледача**

Ідэя звярнуцца да «Беласнежкі» з'явілася ў загадчыка літаратурнай часткі ТЮГа Жаны Лашкевіч, якая ўпэўнена ў тым, што для дзіцячага тэатра неабходна арыгінальная драматургія, аднак, пажадана, з «брэндавай», знаёмай усім назвай. Да гэтых патрабаванняў «Беласнежка» пасуе як нельга лепш: тут і вядомы сюжэт, правераны часам, і шмат магчымасцей для рэжысёрскай інтэрпрэтацыі, і некалькі варыянтаў п'есы, з якіх, здавалася б, лёгка вылучыць патрэбны. Аднак менавіта з п'есай на першапачатковым этапе ўзніклі праблемы: па розных прычынах тэатр не задаволілі ўсе існуючыя драматургічныя версіі. Такім чынам, Ж. Лашкевіч давялося ствараць новы варыянт «Беласнежкі», што ў выніку апынулася вялікай перавагай спектакля і ўнесла пэўны элемент нечаканасці ў звыклы ход падзей.



Па-першае, зусім іншымі паўстаюць самі гномы. У ТЮГаўскім спектаклі было слушна вырашана зрабіць іх вялікімі (амаль па Толкіену) і такім чынам абыграць рост акцёраў, якія выконваюць гэтыя ролі. Па-другое, асаблівай увагі гледачоў вымагае магічнае люстэрка Каралевы. У версіі тэатра яно аказваецца ў цэнтры ўсіх падзей, становіцца своеасаблівым тонкім прыборам, які «завостраны» пад праўду, аднак вымушаны трываць хлусню. У выніку, калі Каралева неаднаразова парушае правілы тэхнікі бяспекі пры эксплуатацыі чароўнага люстэрка, яно разбіваецца. Па-трэцяе, сама Беласнежка набывае яркія і адметныя рысы характару. У спектаклі гэта прынцэса «адмысловага выхавання», якая пад спадніцай носіць штаны, ездзіць на поні, страляе з арбалета, а таксама выдатна шые і вяжа.

Насамрэч арыгінальных драматургічных і рэжысёрскіх задумак (рэжысёр-пастаноўшчык Таццяна Вінаградава) у спектаклі вельмі шмат, і выклікае шкадаванне той факт, што не ўсе яны рэалізаваны належным чынам: у Доме літаратара сцэна не прыстасавана для магіі тэатра. Вельмі сціплыя тэхнічныя магчымасці вымушаюць калектыў значна скарачаць палёт творчай фантазіі пры пастаноўцы спектакляў. Так і «Беласнежка», на жаль, у нейкай ступені стала ахвярай абставін, у якіх прыгажосць і чараўніцтва тэатра спасавала перад прозай жыцця.

Аднак нягледзячы на хвалянні аўтараў накont таго, што не ўсе задумкі было магчыма рэалізаваць, а некаторыя з выдатных рэжысёрскіх і драматургічных знаходак з-за непрыстасаванасці сцэнічнай пляцоўкі не «чытаюцца», нават у гэтай сітуацыі глядач адзначыць: спектакль атрымаўся.

Вялікую ролю ў поспеху «Беласнежкі» адыграла і тое, што казку было вырашана зрабіць музычнай. Спецыяльна для спектакля загадчык музычнай часткі тэатра Андрэй Цярэнцьеў напісаў больш як дваццаць нумароў, стварыўшы паўнавартасны мюзікл. На жаль, толькі дзесяць з іх увайшло ў спектакль, што таксама звязана з сённяшнімі ўмовамі працы. Аднак ёсць поўныя надзеі на тое, што пасля пераезду ТЮГа ў родны будынак «Беласнежку» можна будзе паставіць у поўнай драматургічнай, рэжысёрскай і музычнай версіі. Дарэчы, кампазітар Андрэй Цярэнцьеў, мюзіклы якога ідуць у тэатрах Расіі, толькі ў гэтым сезоне далучыўся да калектыву ТЮГа. З яго дапамогай планіруецца больш увагі надаваць музычнаму складніку спектакляў, тым больш што акцёры трупы добра падрыхтаваны ў вакальным плане.

Адметнасць «Беласнежкі» таксама ў добрай ансамблевай ігры артыстаў. Сямёра вялікіх гномаў: Андрэй Каламіец (Разумнік), Аляксандр Зелянко (Таўстун), Сяргей Марговіч (Хітраван), Васіль Ніцко (Гарэза), Іван Ушакевіч (Балбатун), Павел Наўроцкі (Бамбіза), Генадзь Гаранскі (Румза) — дзякуючы ўласнаму таленту і добра прапісаным характарам персанажаў ствараюць цудоўны, насычаны шматлікімі цікавымі дробязямі свет герояў. У ролі Беласнежкі выступіла выхаванка дзіцячай студыі пры ТЮГу Таццяна Гуляева, у працы якой — вельмі трапяткое стаўленне і да сваёй ролі, і да роднага тэатра. Яе партнёрам стаў Аляксандр Гладкі (Прынц), вобраз Каралевы-мачахі стварыла Алеся Гераська, а ў каралеўскага Міністра пераўвасобіўся зорны акцёр ТЮГаўскай сцэны Ігар Сідорчык. Дарэчы, артысты ў гэтым спектаклі працуюць практычна ў адным складзе, і менавіта з улікам іх творчых індывідуальнасцей стваралася новая версія п'есы. Ацаніць майстэрства акцёраў і каманды пастаноўшчыкаў можна ўжо 5 студзеня. Да сустрэчы ў тэатры!

# Адраджэнне мінулага

Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь да 13 студзеня запрашае на выстаўку мастацкай фатаграфіі Маргарыты Трэнінай «Вяртанне».

**Алеся АРЫЦКАЯ,**
**фота аўтара**

У беларускай фатаграфіі Маргарыта Трэніна займае асобнае месца. Кампазіцыйна і сюжэтна яе творчасць знаходзіцца ў традыцыйным русле, працягваючы і развіваючы партрэтную і жанравую фатаграфію, пейзаж і нацюрморт. Тэхнічны дыяпазон работ мастачкі шырокі і разнастайны: ад класічных жэлаціна-срэбраных і таніраваных адбіткаў, каляровых слайдаў да аўтарскай тэхнікі размалёўвання чорна-белых здымкаў.



*Лель. Срэбны адбітак, пастэль.*

«Вяртанне» — пятая персанальная выстаўка Маргарыты Трэнінай за апошнія дзесяць год. Юбілейная экспазіцыя, прымеркаваная да 75-годдзя аўтара, уключае найлепшыя фоатаздымкі сямідзясятых, васьмідзясятых і двухтысячных гадоў, а таксама новыя, якія паказваюцца ўпершыню.

Паводле самой мастачкі, выстаўка нездарма мае назву «Вяртанне»: шмат якія з прадстаўленых фотаздымкаў былі зроблены некалькі дзесяцігоддзяў таму, аднак да сённяшняга дня ляжалі дома ў выглядзе негатываў.

— Мне стала шкада, што творы прападаюць, таму і вырашыла іх адрадзіць. Наогул, выстаўка зборная. Адна яе частка складаецца з фотаздымкаў, якія я зрабіла падчас вандроўкі па Азербайджане (1972), Кіргізіі (1986) і Кабардзіна-Балкарыі (1986). Другая — гэта выявы балот, якія мы здымалі з Юрыем Васільевым, на той час старшынёй нашага Народнага фотаклуба «Мінск» у вёсцы Чарнеўка Барысаўскага раёна ў 1984 годзе. Сёння гэтыя балоты пабачыць немагчыма — яны даўно асушаныя.



*З цыкла «Беларусь». Срэбны адбітак, пастэль.*

Трэцяя частка выстаўкі — мая любімая — фотаздымкі, зробленыя ў вёсках Пескі і Беліна Барысаўскага раёна (1971 — 1974). Запрасіў мяне адпачыць з дзецьмі ў гэтыя прыгожыя мясціны жывапісец, педагог, настаўнік Сяргей Каткоў. Менавіта ён падчас таго, як я рабіла слайды, сказаў: «Маргарыта, ты — фатограф!». Вось тады я і адчула сябе фатографам. Тут і Бярэзіна, і простыя вяскоўцы — не толькі персанажы маіх твораў, але і сябры. Шкада, шмат хто з іх ужо сышоў у іншы свет. Памятаю, калі я скончыла здымкі, запрасіла ўсіх на прагляд слайдаў. На хату нацягнулі прасціну, і людзі пабачылі, у якой прыгажосці яны жывуць. Я тады вельмі хвалявалася — доўгі стол для гасцей знайшлі, а вось з пачастункам было складана — хаця я і падаставала ўсе запасы, вельмі баялася, што будзе мала. Падыходзілі людзі, і кожны з сабой нёс ці мяса, ці сала, ці вэнджаніну — увесь стол заставілі. Пасля прагляду прыціхлі, толькі музыка, якую мы як фон ставілі, грала. І раптам у поўнай цішыні чыясь рэпліка: «Во, а ўсе гавораць: Карпаты ды Карпаты, — а ў нас жа лепей!»

Сумна толькі, што гэта таксама ўжо мінулае. Увесну мы прыехалі на Бярэзіну і не пазналі тое месца: няма стажкоў, махаон не лётае, не ходзіць па рацэ цеплаходзік «Сокал», на якім я цэлы тыдзень працавала матросам, стромкія берагі сталі ніжэй, нічога з таго, што я бачыла, не засталося. Нават ластаўкі-беражанкі — і тыя зніклі. А калісьці ж я выстаўляла экспазіцыю «Настальгія», якую прысвяціла Сяргею Каткову, так амаль усе здымкі на Бярэзіне рабіліся!

Таксама на выстаўцы можна пабачыць і іншыя творы. Напрыклад, фатаграфічныя партрэты вядомых мастакоў: Альгерда Малішэўскага, Нэлі Шчаснай, Валянціны Крывашэевай ды іншых.

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Выдавецкі дом "Звязда"
Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Выдавецкі дом "Звязда".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Выдавецкі дом "Звязда".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2700 рублёў
Наклад — 2697
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 03.01.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 40
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686
13001
9 770024 468001